

"Каб усе былі адно" (Ян 17, 21)

# Царква

№ 1 (48), 2006
17 сакавіка

ВЯЛІКІ ПОСТ – ПАСХА

# "Вось пост, які Я выбраў..."

**Заклікай голасна, не стрымлівайся; узвысь голас твой, каб быў як труба, і пакажы народу Майму на беззаконьне яго, і дому Якаваму – на грахі ягоныя. Яны кожнага дня шукаюць Мяне і хочуць ведаць шляхі Мае, як народ, што робіць справядліва і не адступаецца ад законаў Бога свайго; яны пытаюцца ў Мяне пра суды праўды, хочуць наблізіцца да Бога: «чаму мы посьцім, а Ты ня бачыш? упакорваем душы свае, а Ты ня ведаеш?» – Вось, у дзень посту вашага вы выконваеце волю вашу і патрабуеце цяжкае працы ад іншых. Вось вы посьціце дзеля свараў і разладаў, і дзеля таго, каб дзёрзкаю рукою біць іншых; вы ня посьціце ў гэты час так, каб голас ваш быў пачуты на вышыні. Ці такі той пост, які Я выбраў,– дзень, у які томіць чалавек душу сваю, калі нурыць галаву сваю, як трысьнёг, і падсьцілае пад сябе зрэб'е і попел? Ці гэта называеш постам і днём, заўгодным Госпаду?**

*Вось пост, які Я выбраў: разамкні аковы няпраўды, разьвяжы путы ярма, і прыгнечаных адпусьці на волю, і разарві кожнае ярмо: падзяліся з галодным хлебам тваім, і бяздомных бедных увядзі ў дом; калі ўбачыш голага, адзень яго, і ад адзінакроўнага твайго не хавайся. Тады адкрыецца, як зара, сьвятло тваё, і ацаленьне тваё хутка вырасьце, і праўда твая пойдзе перад табою, і слава Гасподняя будзе з табою. Тады ты паклічаш – і Гасподзь пачуе, залямантуеш – і Ён скажа: Вось Я!*

*Калі ты адвядзеш з асяроддзя твайго ярмо, перастанеш падымаць палец і гаварыць зьняважлівае і аддасі галоднаму душу тваю і накорміш душу пакутніка,– тады сьвятло тваё ўзыдзе ў цемры, і морак твой будзе як полудзень; і будзе Гасподзь правадыром тваім заўсёды, і ў час засухі будзе насычаць душу тваю і мацаваць косьці твае, і ты будзеш як напоены вадою сад і як крыніца, воды якое ніколі не перасыхаюць.*

*І забудуцца нашчадкамі тваімі пустыні векавечныя: ты адродзіш асновы многіх пакаленьняў, і называцьмуць цябе адраджэнцам руінаў, адраджэнцам шляхоў насельніцтву.*

*Калі ты ўтрымаеш нагу тваю дзеля суботы ад выкананьня прымхаў тваіх у сьвяты дзень Мой, і будзеш называць суботу радасьцю, сьвятым днём Гасподнім, шанавальным, і ўшануеш яе тым, што ня будзеш займацца звычнымі тваімі справамі, дагаджаць тваёй прыхамаці і пустасловіць, дык мецьмеш радасьць у Госпадзе, і Я ўзьвяду цябе на вышыні зямныя і дам скаштаваць табе спадчыну Якава, бацькі твайго: вусны Гасподнія прамовілі гэта.*

***(Кніга прарока Ісаі, 58)***



*УВАСКРАСЕНЬНЕ – САШЭСЬЦЕ Ў ПЕКЛА. Сярэдзіна – другая палова XVII ст., з царквы Нараджэньня Маці Божай у м. Лахва Лунінецкага р-ну Берасьцейскай вобл.*

## ПАСТЫРСКАЕ СЛОВА
## *Апостальскага Візітатара «ad nutum Sanctae Sedis» для грэка-католікаў Беларусі на Вялікі пост і на сьвята Пасхі Хрыстовай 2006 году*

# І. На шляху вялікапоснай "унутранай пілігрымкі"

*Пачэсныя Айцы Сьвятаслужыцелі!*
*Дарагія ў Госпадзе*
*Манахі, Манахіні і Браты Семінарысты!*
*Любасныя Браты і Сёстры!*

***Вечная Міласэрнасьць Госпада!***
*(пар. Пс 135)*

### 1. "НАВЕРНЕМСЯ ДА БОГА, СПАЗНАЕМ ЯГО МІЛАСЭРНАСЬЦЬ"

Малітоўны роздум над значэньнем вялікапоснага, духовага змаганьня хочам пачаць словамі з Пасланьня Сьвятога Айца Бенядыкта XVI на Вялікі пост 2006 году: ***"Вялікі пост – гэта найбольш спрыяльны час для ўнутранай пілігрымкі да Таго, Хто зьяўляецца крыніцаю Міласэрнасьці. Гэта пілігрымка па пустыні нашай убогасьці, у якой Ён Сам нам спадарожнічае, падтрымліваючы нас на шляху да радасьці Вялікадня. Нават у «даліне сьмяротнага ценю», пра якую гаворыць Псальміст*** *(пар. Пс 22, 4)*, ***тады, калі спакушальнік падштурхоўвае нас да роспачы або намаўляе разьлічваць толькі на свае ўласныя сілы, Бог клапоціцца пра нас і ўмацоўвае".***



У перыяд Вялікага посту Царква нагадвае нам, што Міласэрны Госпад Ісус Хрыстос чуе і сёньня заклік людзей, якія шукаюць справядлівасьці, міру, надзеі і любові. І нават у вялікім адчаі, што часта прыгнятае без усялякага адрозьненьня старых, дарослых, моладзь і дзяцей, Бог не дазваляе запанаваць цемры і страху. Як напісаў Слуга Божы Папа Ян Павел ІІ: ***"Існуе «боская мера, вызначаная злу», а зьяўляецца ёю Міласэрнасьць"*** *("Памяць і самасьвядомасьць").*

Пра асаблівую вартасьць "унутранай пілігрымкі" да Міласэрнага Хрыста нагадвае нам Яго Сьвятасьць Папа Бенядыкт XVI: ***"Вялікі пост хоча нас весьці да поўнага збаўленьня, у чаканьні блізкай перамогі Хрыста над усялякім злом, якое прыгнятае чалавека. Калі мы зьвернемся да боскага Настаўніка, то навернемся да Яго, спазнаем Яго Міласэрнасьць дзякуючы сакраманту паяднаньня і ўбачым пранізьлівы да глыбіні «позірк», які можа даць новае жыцьцё ўсім людзям і кожнаму з нас. Тым людзям, якія не замыкаюцца ў скептыцызме, гэты «позірк» вяртае надзею, адкрываючы перад імі персьпектыву шчасьлівай вечнасьці. А значыць, ужо ў гэтым жыцьці Бог ніколі не дазволіць, каб не было сьветлага сьведчаньня Яго любові, нават калі здаецца, што пераважвае нянавісьць"*** *(Пасланьне на Вялікі пост 2006 году).*

### 2. "ЗЬВЕРНЕМ НАШЫЯ СЭРЦЫ ДА МАГУТНАГА БОГА І Ў АДЗІНСТВЕ ЎЗЬНЯСЕМ МАЛІТВЫ"

На шляху вялікапоснай "духовай пілігрымкі", што вядзе людзей да ўрачыстасьці сьветлай Пасхі Хрыстовай, знаходзім каштоўныя знакі надзеі. Хрысьціяне розных канфесіяў і традыцыяў – праваслаўныя, католікі абодвух абрадаў, пратэстанты, а таксама людзі добрага сумленьня – яднаюцца для посту і малітвы, каб прасіць Божай Міласэрнасьці для нашай Краіны. З Сьвятога Пісаньня ведаем, што ***"шмат можа ўзмоцненая малітва праведнага"*** *(Пасланьне Апостала Якуба 5, 16).*

У візантыйскай богаслужбовай традыцыі, якая павінна кшталтаваць духовае жыцьцё кожнага грэка-католіка, днямі посту і малітвы зьяўляюцца серада і асабліва пятніца. Таму ў час Вялікага посту слушна будзе разглядаць кожную пятніцу як дзень зьмірэньня, посту і малітвы. Прадметам нашых асаблівых малітваў няхай стануць просьбы пра тое, каб стандартам чалавечых узаемадачыненьняў стала ўзаемная павага, еднасьць у Духу Сьвятым, а арыенцірам – дзесяць прыказаньняў Божых, правераных часам і гісторыяй.

На шляху вялікапоснай "духовай пілігрымкі" Царква корміць нас шчодра Словам Божым. У тым жа Слове Божым знаходзім каштоўнае прароцтва, што нясе надзею: ***"І ўпакорыцца народ Мой, які называецца імем Маім, і будуць маліцца, і шукацьмуць аблічча Майго, і адвернуцца ад дрэнных шляхоў сваіх, дык Я пачую з неба і дарую грахі іхнія і ацалю зямлю іхнюю"*** *(2-ая Кніга Летапісаў 7, 14).*

На беларускай зямлі Дабравесьце пра Міласэрнага Бога праз стагоддзі прасьвятляла радасныя і сумныя часы жыцьця нашага народу. Таму ў духу вернасьці нашай духовай традыцыі ***"зьвернем нашыя сэрцы да Магутнага Бога і ў адзінстве ўзьнясем малітвы"***, каб ***"Ён пачуў з неба і дараваў грахі нашыя, і ацаліў зямлю нашую"*** *(пар. 2 Лт 7, 14).* Молімся рупліва, каб Евангельле Міласэрнасьці стала і сёньня крыніцай сьвятла, надзеі, любові і духовай моцы для ўсіх людзей добрага сумленьня, якія шчыра і сур'ёзна клапоцяцца пра дабро нашай Бацькаўшчыны.

Асаблівай духовай нагодай, каб на шляху вялікапоснай "духовай пілігрымкі" зачэрпнуць з гэтай ***"невычэрпнай крыніцы надзеі"***, зьяўляецца штогадовае сьвяткаваньне Дабравешчаньня Гасподняга – 25 сакавіка. Хай магутная малітва Найсьвятой Дзевы Марыі, з якой ***"дзеля нас людзей і дзеля нашага збаўленьня"*** прыняў цела Міласэрны Збавіцель сьвету, дапамагае нам усё больш і больш любіць Бога і нашую Айчыну Беларусь і працаваць дзеля дабра ўсіх яе грамадзянаў.

З адказнасьцю прымем подзьвіг посту і ў кожную вялікапосную пятніцу пастараемся ўдзельнічаць ў Літургіі раней асьвячаных дароў, або, прынамсі, вечарам прачытаць малітву з той жа Літургіі:

*"Усемагутны Ўладару,*
*што пасьля сарака дзён*
*даў слузе Твайму Майсею табліцы Закону,*
*дай нам змагацца добрым змаганьнем,*
*час посту добра закончыць,*
*захаваць непарушнай веру,*
*быць пераможцамі граху*
*і без асуджэньня дажыць пакланіцца*
*сьвятому Ўваскрасеньню.*
*Бо ўсепачэснае і велічнае Імя Тваё,*
*Айца і Сына, і Сьвятога Духа,*
*благаславёнае і праслаўленае*
*цяпер і заўсёды, і на вякі вякоў. Амін".*

# ІІ. У пасхальнай радасьці Госпада

*Вялебныя Айцы!*
*Дарагія Манахі, Манахіні і Браты Семінарысты!*
*Умілаваныя ў Госпадзе Браты і Сёстры!*
*Шаноўныя Сябры!*

**1. "ПРЫЙДЗІЦЕ ЎСЕ ДА РАДАСЬЦІ ГАСПАДАРА НАШАГА"!**

***"Прыйдзіце ўсе да радасьці Гаспадара нашага"!*** Гэтыя словы сьвятога Яна Залатавуснага Царква чытае кожны год на заканчэньне Пасхальнай Ютрані, у якой радаснымі сьпевамі выражана невычэрпная радасьць з перамогі Хрыста над злом і грахом:

*"Прыйдзіце ўсе да радасьці Гаспадара нашага!*
*Тыя, што пасьцілі, і тыя, што не пасьцілі, радуйцеся сёньня.*
*Стол багаты – усім хопіць з дастаткам".*

Праз сваю Пасхальную Перамогу Ўваскрослы Госпад падрыхтаваў нам багаты стол сваёй Міласэрнасьці. Таму сьвяты Ян Залатавусны навучае нас:

*"Ніхто хай ня плача аб сваіх правінах,*
*бо прабачэньне зазьзяла з магілы.*
*Ніхто хай не баіцца сьмерці,*
*бо сьмерць Збавіцеля вызваліла нас".*



Уваскрослы Хрыстос вызваліў нас ад граху, няверы, страху і адчаю. Ён прыносіць людзям свабоду, мір, радасьць, надзею і дар мужнасьці.

Напярэдадні Пасхі Хрыстовай – у пятую нядзелю Вялікага посту (паводле грыгарыянскага календара), 2 красавіка гэтага году – выпалі першыя ўгодкі спачыну ў Богу Першаярарха Паўсюднай Царквы – Слугі Божага Папы Яна Паўла ІІ. Вялікі запавет жыцьця ды навучаньня Сьвятога Айца Яна Паўла ІІ застаецца для нас, беларускіх католікаў візантыйскага абраду, каштоўным скарбам, які – разам з нашымі братамі лацінскага абраду – хочам глыбока асэнсаваць. Мы добра памятаем, што незадоўга перад сваёй сьмерцю Яго Сьвятасьць Ян Павел ІІ, на просьбу пра асаблівае блаславеньне для Беларусі, сказаў: ***"Будзьце мужнымі,– адвагі!"***

Як вядома, мужнасьць і адвага нараджаюцца з праўдзівай веры ў Бога, з даверу Ягонай Міласэрнасьці, якая абуджае ў сэрцах любоў да бліжніх і міжлюдзкую салідарнасьць. Пасхальная вера ў Ісуса Хрыста – Збаўцу і Пераможцу выкараняе ўсе слабасьці й чалавечыя страхі. Мы пачынаем разумець, што чалавек пакліканы, каб быць супрацоўнікам Магутнага і Міласэрнага Бога, Які любіць нас, і што той, ***"хто пусьціць Хрыста ў сваё жыцьцё, нічога ня страціць з таго, што робіць чалавека свабодным, прыгожым і вялікім"*** *(Бенядыкт XVI, Гамілія на інаўгурацыі пантыфікату, 24.04.2005).*

У радасным сьвяткаваньні пасхальнай перамогі Госпада мы сустракаем Ягоную Маці, Найсьвятую Багародзіцу. Падчас велікоднай Боскай Літургіі сьпяваем задастойнік:

*"Анёл усклікнуў Поўнай ласкі:*
*Чыстая Дзева, радуйся!*
*І зноў кажу: Радуйся,*
*бо Твой Сын уваскрос на трэці дзень з магілы*
*І мёртвых узьняў з сабою. Людзі, весяліцеся".*
*(Велікодны задастойнік)*

Таму ў радасны велікодны час, які нясе мір і надзею ды ажыўляе любоў, зьвяртаемся ў малітве да Багародзіцы:

*"Усячыстая Багародзіца,*
*пакрый нашую Бацькаўшчыну*
*Тваім сьвятым покрывам*
*і будзь нашай Апякункай і Заступніцай".*
*(Малебен за беларускі народ)*



**2. "ВЕЧНАЯ МІЛАСЭРНАСЬЦЬ ЯГО"** *(Пс 135)*

У велікодны вечар Уваскрослы Хрыстос прывітаў апосталаў словамі: ***"Мір вам!"*** *(Ян 20, 19).* Гэтае прывітаньне вучні Хрыстовыя рупліва і верна запісалі для наступных пакаленьняў на картах Сьвятога Пісаньня, дзе чытаем: ***"Мір вам усім, хто ў Хрысьце Ісусе" (1 Пт 5, 14) і каторых любіць Бог*** *(пар. Лк 2, 14).*

Гэтае пасхальнае прывітаньне міру на працягу мінулых месяцаў накіроўваў да нас, католікаў візантыйскай традыцыі ў Беларусі, некалькі разоў Апостальскі Нунцый Найдастойны Ўладыка Архібіскуп Марцін Відавіч. Мы вельмі ўдзячныя яму за гэтае прывітаньне і духоўную падтрымку, якая дапамагае на чэрпаць сілы з пасхальнай перамогі Хрыста Чалавекалюбца.

Удзячным сэрцам віншуем Яго Эксцэленцыю Ўладыку Марціна са сьвятам Пасхі Хрыстовай.

Мір, радасьць, надзея і братэрская салідарнасьць – дары Міласэрнага Хрыста – заахвочваюць нас, каб у гэты пасхальны час яшчэ раз паўтарыць, што ў гэтым душпастырскім годзе ***"мы хочам умацаваць нашую малітву і нашыя высілкі на карысьць разьвіцьця культуры дыялогу і братэрскага супрацоўніцтва Цэркваў у Беларусі, дзеля агульнага дабра ўсіх грамадзянаў".***

Таму ў духу ўдзячнасьці Міласэрнаму Хрысту, Які прыносіць нам дар міру, сардэчныя словы велікодных віншаваньняў накіроўваем да нашых Братоў і Сёстраў праваслаўных і да хрысьціянаў іншых канфесіяў.

Сардэчныя прывітаньні са сьвятам Пасхі Хрыстовай накіроўваем да ўсіх нашых Сяброў і Дабрадзеяў, да ўсіх людзей добрага сумленьня і добрай волі.

Шчыра віншуем са сьвятам Пасхі Хрыстовай нашых братоў і сёстраў католікаў лацінскага абраду: дастойных ярархаў, сьвятароў, манахаў і манахіняў ды ўсіх вернікаў.

Словы пасхальных віншаваньняў накіроўваем да ўсіх католікаў візантыйскай традыцыі ў Беларусі, што жывуць па-за душпастырскімі структурамі нашае Царквы і часта ня маюць нават дзе сустрэцца на супольную малітву. Любыя ў Госпадзе Браты і Сёстры, да вас асабліва накіроўваю словы Сьвятога Айца Бенядыкта XVI: ***"Няхай Уваскрослы Хрыстос напоўніць сэрца кожнага з вас сваёй любоўю, каб вы былі гатовыя з энтузіязмам пайсьці за Ім"*** *(Агульная аўдыенцыя, 27.04.2005).*

Сьвяткуючы пасхальную перамогу Хрыста хочам паўтарыць словы малітвы:

***"Божа, Ойча Міласэрны,***
***дазволь усім жыхарам Беларусі***
***зьведаць Тваю Міласэрнасьць,***
***каб у Табе, Трыадзіны Божа,***
***заўсёды знаходзілі крыніцу надзеі".***
*(Даручэньне Беларусі Божай Міласэрнасьці).*

Прароцкае слова Слугі Божага Папы Яна Паўла ІІ – ***"У асяроддзі вашай працы і жыцьця станьце адважнымі апосталамі Божае Міласэрнасьці"*** *(Слова перад малітвай Angelus,11.04.1999)* – няхай будуць выразам найлепшых віншаваньняў, якія ў гэты велікодны перыяд накіроўваем да ўсіх беларускіх грэка-католікаў: сьвятароў і вернікаў, у Айчыне і па-за яе межамі. ***"Мір вам усім, хто ў Хрысьце Ісусе"*** *(1 Пт 5, 14)* ***і каторых любіць Бог*** *(пар. Лк 2, 14).*

З велікодным прывітаньнем:

***Хрыстос уваскрос!***
***Сапраўды ўваскрос!***

*Менск, пачатак Вялікага посту 2006 году.*

**+ Архімандрыт СЯРГЕЙ (Гаек)**
**Апостальскі Візітатар**
**для грэка-католікаў Беларусі**

+ архім. Сергей Гаек



# Першая энцыкліка

## Сьвятога Айца Бенядыкта XVI

***"Deus caritas est" – такую назву мае першая энцыкліка Сьвятога Айца Бенядыкта XVI. Прэзентацыя дакументу адбылася 25 студзеня 2006 году, хаця падпісаная яна была месяц раней, 25 сьнежня 2005 году, у сьвята Раства Хрыстовага.***

Дакумент пачынаецца словамі з Першага пасланьня сьв. апостала Яна: "Бог ёсьць любоў, і хто жыве ў любові, той жыве ў Богу, і Бог у ім." *(1 Ян 4, 16).* На думку Сьвятога Айца, гэтыя словы з асаблівай яснасьцю выяўляюць сутнасьць хрысьціянскай веры: хрысьціянскі вобраз Бога, а таксама вобраз чалавека і ягоны шлях. У пачатку *быцьця хрысьціянінам* ляжыць ня нейкае этычнае рашэньне ці вялікая ідэя, а сустрэча з Асобаю, якая дае жыцьцю новую перспектыву і вырашальны накірунак. Хрысьціянская вера прымае любоў як свой асноўны прынцып. Бог першы палюбіў нас, і таму любоў – гэта ўжо не прыказаньне, а адказ на дар любові, з якою Бог да нас прыходзіць. Бенядыкт XVI падкрэсьлівае, што гэтае пасланьне вельмі актуальнае і мае канкрэтнае значэньне ў сёньняшнім сьвеце, дзе з імем Божым зьвязваецца часамі помста або нават абавязак нянавісьці і ўжываньня сілы.

Энцыкліка складаецца з двух частак. Першая прысьвечана больш тэарэтычным разважаньням над таямніцаю Божай любові. У другой частцы Сьвяты Айцец піша пра царкоўнае напаўненьне прыказаньня любові бліжняга – міласэрнасьць і хрысьціянскую дабрачыннасьць. Паколькі гэта вельмі шырокая тэматыка, то ён хацеў падкрэсьліць некаторыя фундаментальныя элементы, каб заахвоціць сьвет да новага, дзейснага запалу для адказу на Божую любоў.

Слова любоў, як заўважае Сьвяты Айцец, у сучасным сьвеце стала адным з найчасьцей ужываных тэрмінаў. Сярод розных яго значэньняў (любоў да бацькоў, да Айчыны, да працы і г.д.) любоў паміж мужчынам і жанчынаю, у якой удзельнічаюць у сулучнасьці цела і душа і ў якой перад чалавекам адкрываецца абяцаньне шчасьця, прынята лічыць узорам любові ў поўні значэньня гэтага слова. Перад чалавекам паўстае пытаньне: ці ўсе віды любові сапраўды маюць у сабе яе агульную сутнасьць, ці гэта толькі гульня словаў і недасканаласьць мовы?

У грэцкай мове існавала тры словы для акрэсьленьня любові: ***eros, philia і agape.*** Паняцьце *eros* у грэцкай культуры ўжывалася найчасьцей і азначала любоў мужчыны і жанчыны, якая нараджаецца не паводле жаданьня і думкі чалавека, але пэўным чынам прыходзіць да яго звонку. У хрысьціянскай традыцыі любоў прынята было называць словам *agape*, якое ў грэцкай культуры знаходзілася хутчэй на перыфэрыі паняцьцяў. Гэтая навізна хрысьціянскага разуменьня любові сталася з часоў эпохі Асьветніцтва прадметам крытыкі і негатыўнай ацэнкі. Фрыдрых Ніцшэ пісаў, што хрысьціянства нібы дало эрасу выпіць труцізну, і той, хоць і не памёр, але ператварыўся ў загану.

Сьвяты Айцец ставіць пытаньне: ці сапраўды хрысьціянства загубіла эрас? Каб даць на яго адказ, Папа прапануе паглядзець на дахрысьціянскі сьвет. Стары Запавет не адкідае эрасу, але змагаецца з тымі яго вычварнымі праявамі, што былі распаўсюджаны ў шматлікіх культах плоднасьці, якія прапагандавалі "сьвятую распусту". Такое фальшывае абагаўленьне эрасу пазбаўляла яго годнасьці і рабіла нялюдзкім. Эрас патрабуе дысцыпліны і ачышчэньня, каб даць чалавеку не хвілінную прыемнасьць, але пэўнае прадчуваньне смаку вяршыні існаваньня, таго шчасьця, да якога імкнецца ўся наша натура.

Сьвяты Айцец зьвяртае ўвагу на тое, што сёньня эрас, які зводзіцца толькі да "сэксу", становіцца таварам, звычайнаю "рэччу", якую можна купіць і прадаць, больш за тое, сам чалавек становіцца таварам. Мы стаім перад абліччам дэградацыі чалавечага цела, калі яно ўжо не зьяўляецца інтэгральнаю часткаю нашага свабоднага існаваньня, ня ёсьць жывым выразам цэласнасьці нашага быцьця, але нібы адкінутае ў чыста біялягічную сферу нашага жыцьця. Хрысьціянская ж вера заўсёды лічыла чалавека істотаю, у якой дух і матэрыя ўзаемна пранікаюцца. Так, эрас прагне захапіць нас "у экстазе" ў накірунку Боскасьці, узьнесьці нас па-над сабою, але ўласна таму ён патрабуе аскезы, адрачэньня, ачышчэньня і аздараўленьня.

Часта ў філасофскіх і тэалагічных дыскусіях любоў-эрас і любоў-агапэ супрацьстаўляюцца як нешта зусім несумяшчальнае. На самой справе, падкрэсьлівае Сьвяты Айцец, эрас і агапэ – любоў, якая ўваходзіць і якая выходзіць,– немагчыма цалкам аддзяліць адна ад адной. Калі эрас напачатку зьяўляецца жаданьнем, скіраваным на сябе, захапленьнем з абяцаньнем вялікага шчасьця, праз збліжэньне з іншай асобай ён з кожным разам будзе ўсё менш засяроджвацца на сябе, будзе ўсё больш шукаць шчасьця для іншай асобы, будзе прысьвячацца ёй і прагнуць "быць для" яе. Таксама нельга жыць толькі любоўю ахвярнаю, якая выходзіць. Той, хто хоча даваць любоў, мусіць яе атрымаць.

Насуперак распаўсюджаным стэрэатыпам, біблійная традыцыя ніколі не цуралася гаварыць пра любоў-эрас. Асабліва часта пра гэтую Божую "страсьць" пісалі прарокі Асія і Езэкіэль. Адносіны Бога і Ізраіля яны паказвалі праз метафары заручынаў і сужэнства, пакланеньне ідалам называлі чужаложствам і прастытуцыяй. Аднак любоў Бога – гэта ня толькі эрас, але адначасова і агапэ. Любоў Бога і чалавека яднаюцца ў адно ў Ісусе Хрысьце: у найменшым чалавеку мы сустракаемся з Хрыстом, а ў Хрысьце з Богам.

Апошнім пытаньнем першай часткі энцыклікі зьяўляецца пытаньне: ці магчыма любіць Бога, ня бачыўшы Яго? Сьвяты Айцец зноў вяртаецца да словаў Апостала Яна: "Хто кажа: «я люблю Бога», а брата свайго ненавідзіць, той ілжэ; бо хто ня любіць брата свайго, якога бачыць, як можа любіць Бога, Якога ня бачыць?" *(1 Ян 4, 20).* Любоў Бога і любоў бліжняга неразрыўна зьвязаныя паміж сабою, любоў бліжняга ёсьць шляхам да сустрэчы з Богам, а хто ня бачыць бліжняга, той робіцца чалавекам сьляпым і на Бога. Любоў жа да бліжняга заснаваная на тым, што з Богам і ў Богу любім таксама іншага чалавека, якога ў гэтую хвіліну, можа, нават ня ведаем альбо не адчуваем да яго сімпатыі. Такая любоў магчымая толькі тады, калі яе пунктам выйсьця ёсьць інтымная сустрэча з Богам. Тады вучымся глядзець на іншую асобу з персьпектывы Ісуса. Такі погляд мелі сьвятыя, напрыклад, блаславёная Тэрэза з Калькуты, і ўсе яны чэрпалі свае сілы для любові бліжняга з сустрэчы з Ісусам у Эўхарыстыі.

У другой частцы энцыклікі Сьвяты Айцец разважае пра канкрэтныя формы рэалізацыі любові ў жыцьці Царквы. Для акрэсьленьня любові ён ужывае лацінскае слова карытас *(caritas)*, якое азначае таксама *"міласэрнасьць, дабрачыннасьць".*

Дух Сьвяты напаўняе Царкву і робіць яе ў сьвеце сьведкам любові Айца, які хоча, каб чалавецтва было ў Яго Сыне адзінай сям'ёй. Уся дзейнасьць Царквы ёсьць выявай любові, якая прагне цэласнага дабра чалавеку: прагне яго евангелізацыі праз Слова і Тайны, прагне ягонага гарманічнага разьвіцьця ў розных вымярэньнях людзкога жыцьця і дзейнасьці. Такім чынам, любоў зьяўляецца служэньнем Царквы, якая нястомна выходзіць насустрач цярпеньням і патрэбам (таксама і матэрыяльным) людзей.

Унутраная прырода Царквы выяўляецца ў патройным заданьні: абвяшчэньні Слова Божага *(керыгма-мартырыя)*, служэньні Тайнаў *(лейтургія)* і паслузе любові *(дыяконія).* Гэтыя заданьні, адзначае Папа, сьцісла паміж сабою зьвязаныя, і нельга іх аддзяліць адно ад аднаго. Для Царквы *карытас* – гэта ня форма сацыяльнай апекі, якую можна даверыць каму-небудзь іншаму. *Карытас* належыць да прыроды Царквы і ёсьць абавязковай праявай яе сутнасьці. Царква — гэта Божая сям'я ў сьвеце, і ў гэтай сям'і ніхто не павінен адчуваць недахоп таго,

## ІДЭЮ БЕАТЫФІКАЦЫІ ЯНА ПАЎЛА ІІ ПАДТРЫМЛІВАЮЦЬ НЯ ТОЛЬКІ КАТОЛІКІ

***Ня толькі каталікі спадзяюцца на хуткую беатыфікацыю Яна Паўла ІІ – за гэта выступаюць многія пратэстанты, вернікі іншых рэлігіяў і нават атэісты.***

Як заявіў кіраўнік ватыканскай прэс-службы Хаакін Навара-Вальс, падобныя звароты і лісты з падтрымкай ідэі праслаўленьня Яна Паўла ІІ "прыходзяць ад агностыкаў, няверуючых, нават ад мусульманаў, будыстаў і індуістаў", у якіх яны просяць, каб "Царква прызнала і іх сьведчаньні пра Папу".

Паводле словаў мансіньёра Славаміра Одэра, пастулятара працэсу беатыфікацыі Яна Паўла ІІ, нядаўна ён атрымаў два лісты ад некатолікаў з паведамленьнем пра магчымыя цуды, зьдзейсьненыя Каралем Вайтылам. У інтэрв'ю газеце *Corriere della Sera* ён паведаміў, што англічанін з ЗША пабачыў у сьне Яна Паўла ІІ, а калі прачнуўся – заўважыў, што яго больш ня мучаюць болі, ад якіх ён пакутаваў доўгі час. Яшчэ адна жанчына – праваслаўная па веравызнаньні – лічыць, што спачылы Папа ацаліў яе сына ад дэпрэсіі.

## АПОСТАЛЬСКІ ПАСАД АСУДЗІЎ КАРЫКАТУРЫ НА ПРАРОКА МУХАМЕДА

***4 лютага 2006 году прэс-служба Ватыкану распаўсюдзіла сьпецыяльную заяву ў адказ на просьбы пракаментаваць публікацыю карыкатур на прарока Мухамеда асобнымі заходнімі выданьнямі.***

"Права на свабоду сумленьня і слова, што гарантуецца Сусьветнай дэкларацыяй правоў чалавека, не падразумевае права на зьнявагу пачуцьцяў вернікаў. Відавочна, што гэты прынцып справядлівы ў адносінах да ўсіх рэлігіяў",– гаворыцца ў заяве прэс-службы Ватыкану. "Падобныя формы варожае крытыкі ці абсьмейваньня іншых сьведчаць пра адсутнасьць тактоўнасьці і ў некаторых выпадках могуць быць недапушчальнай правакацыяй",– адзначаецца далей.

"У той самы час, неабходна адразу заўважыць, што ў крыўдах, нанесеных асобным чалавекам ці друкаваным органам, нельга вінаваціць грамадзкія інстытуты адпаведнае краіны, улады якой могуць і павінны неадкладна ўмяшацца, зыходзячы з заканадаўства... Таму, прыкра бачыць гвалтоўныя акцыі пратэсту. Падобная рэакцыя перад абліччам нанесеных крыўдаў ня можа адпавядаць сапраўднаму духу любой рэлігіі. Праява фізічнае або моўнае неталеранцыі, няважна, ці гэта ўласна дзеяньне, ці рэакцыя на яго, маюць у сабе сур'ёзную пагрозу міру",– падкрэсьліваецца ў заяве прэс-службы Ватыкану.

## ІІІ Сустрэча духавенства РГКЦ у Маскве

***9 лютага 2006 году ў Маскве адбылася ІІІ Сустрэча духавенства Расейскай Грэка-Каталіцкай Царквы (РГКЦ), якую ўзначальваў Ардынар для грэка-католікаў у Расейскай Федэрацыі Дастойны Ўладыка Ёзаф Верт – Старшыня Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў РФ. У сустрэчы бралі ўдзел 15 грэка-каталіцкіх сьвятароў з усёй Расейскай Федэрацыі, а таксама Сакратар Апостальскай Нунцыятуры ў Маскве Мансіньёр Антэ і Сакратар Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў РФ кс. Ігар Кавалеўскі.***

Сустрэча праходзіла пасьля пілігрымкі, якую ў канцы студзеня 2006 году Ўладыка Ёзаф Верт зьдзейсьніў ва Ўкраіну, дзе быў госьцем Яго Блаславенства Любаміра – Першаярарха УГКЦ. Важнай часткай гэтае пілігрымкі стала наведваньне Ўладыкам Вертам Мукачыўскай грэка-каталіцкай япархіі (у Закарпацьці). Адсюль паходзіць мужны вызнаўца веры, вязень савецкіх канцлагераў, грэка-каталіцкі Ўладыка Аляксандар Хіра, сасланы пазьней у Караганду, дзе ён духова апекаваўся мясцовымі рымакатолікамі, сярод якіх быў малады нямецкі католік Ёзаф Верт.

У Вужгарадзе Ўладыка Ёзаф (Верт) у візантыйскім сакасе (літургічнай біскупскай вопратцы) саслужыў Боскую Літургію разам з Апостальскім Адміністратарам Мукачыўскай япархіі Ўладыкам Міланам (Шашыкам), а таксама маліўся пры мошчах сьвятамучаніка Тэадора Ромжы.

На ІІІ Сустрэчы духавенства РГКЦ у Маскве Ўладыка Верт кананічна зацьвердзіў грэка-каталіцкія парафіі на тэрыторыі Расейскай Федэрацыі, якія раней існавалі толькі як супольнасьці, прызначыў парахаў і супрацоўнікаў. Таксама былі прызначаныя 2 дэканы і сакратар Ардынара. Гэта азначае структурнае ўзмацненьне існуючых грэка-каталіцкіх супольнасьцяў у Расеі.

## СПАЧЫЎ У БОГУ ЎЛАДЫКА ІВАН ХОМА (УГКЦ)

***Пасьля працяглае хваробы 3 лютага 2006 году ў Рыме адышоў у вечнасьць украінскі грэка-каталіцкі Ўладыка Іван Хома – выдатны багаслоў, царкоўны гісторык і выдавец.***

Больш за 20 гадоў ён зьяўляўся блізкім супрацоўнікам Зьверхніка УГКЦ Мітрапаліта Ёсіфа Сьліпога, працаваў яго сакратаром, канцлерам, членам Львоўскага крыласа. У 1998 годзе Кардынал Міраслаў Любачыўскі прызначыў біскупа Івана Хому Апакрызарыем УГКЦ у Рыме.

Спачылы Ўладыка Іван быў вялікім сябрам беларускіх грэка-католікаў, падтрымліваў блізкія сувязі з нашым біскупам Чэславам Сіповічам, асабліва падчас рымскага перыяду служэньня Ўладыкі Чэслава.

---

што неабходна да жыцьця, падкрэсьлівае Бенядыкт XVI. Адначасова любоў-*карытас* не абмяжоўваецца толькі Царквою, але скіраваная да кожнага, нават выпадковага сустрэчнага, кім бы ён ні быў.

Пачынаючы з сярэдзіны XIX стагоддзя, дабрачынная дзейнасьць Царквы моцна крытыкавалася, у першую чаргу пад уплывам марксізму. Паводле гэтага вучэньня, бедныя патрабуюць справядлівасьці, а ня міласьціны, а Царква толькі падтрымлівае несправядлівы парадак у сьвеце. Адказваючы на гэтыя закіды, Сьвяты Айцец піша, што грамадзкая справядлівасьць — гэта заданьне палітыкі, а значыць, дзяржавы. Царква ня можа падмяніць сабою дзяржавы, аднак ня можа таксама заставацца ў баку ад барацьбы за справядлівасьць. Яна мусіць уключыцца ў гэтую барацьбу праз рацыянальную аргументацыю і праз абуджэньне духовых сілаў, без якіх справядлівасьць, якая патрабуе заўсёды ахвярнасьці, ня можа ўмацавацца і разьвіцца. Беспасрэдная дзейнасьць на карысьць справядлівага грамадзкага парадку зьяўляецца, аднак, заданьнем сьвецкіх вернікаў. Як грамадзяне дзяржавы, яны пакліканыя да асабістага ўдзелу ў грамадзкім жыцьці. Такім чынам, кшталтаваць грамадзкае жыцьцё ў духу справядлівасьці, згодна з навучаньнем Царквы,— гэта місія сьвецкіх вернікаў. Аднак дзейнасьць на карысьць справядлівасьці ніколі не пазбаўляе хрысьціянаў ад абавязку дабрачыннасьці, бо, акрамя справядлівасьці, чалавек заўсёды патрабуе любові.

Сьвяты Айцец акрэсьлівае асноўныя рысы хрысьціянскай любові:

а). Хрысьціянская *любоў (карытас)* зьяўляецца адказам на патрэбы ў канкрэтнай сітуацыі: галодных трэба накарміць, бедных апрануць, хворых лячыць, спадзеючыся на іх ацаленьне, вязьняў наведаць і г. д.

б). Хрысьціянская дабрачыннасьць мусіць быць незалежнаю ад партыяў і ідэалогіяў. Яна не зьяўляецца сродкам ідэалягічнай зьмены сьвету і ня служыць сусьветным стратэгіям, але зьяўляецца актуалізацыяй тут і цяпер той любові, якой чалавек патрабуе заўсёды.

в). Міласэрнасьць *(карытас)* ня можа быць сродкам празелітызму. Любоў бескарысьлівая, нельга практыкаваць яе для асягненьня іншых мэтаў. Гэта не азначае, што дабрачынная дзейнасьць павінна пакінуць Бога і Хрыста, так бы мовіць, убаку. Часта галоўнаю прычынаю цярпеньня ёсьць недахоп Бога.

Папа акрэсьлівае канкрэтныя заданьні для тых, хто нясе адказнасьць за дабрачынную дзейнасьць у Царкве: для галоўных адказных – біскупаў, а таксама для ўсіх супрацоўнікаў царкоўных дабрачынных арганізацыяў. Сьвяты Айцец падкрэсьлівае асаблівую вагу малітвы, якую яна мае ў харытатыўнай паслузе. Малітва зьяўляецца сродкам ад празьмернага актывізму і секулярызацыі, якія захопліваюць многіх працаўнікоў царкоўных дабрачынных арганізацыяў. Хрысьціянін, які моліцца, ня хоча зьмяняць Божых планаў, але прагне сустрэчы з Айцом Ісуса Хрыста, просячы, каб Ён быў прысутны праз Духа ў ім і ў яго паслузе.

На заканчэньні энцыклікі Сьвяты Айцец прыводзіць прыклады сьвятых, якія ёсьць для нас узорам міласэрнасьці. Сярод іх асаблівае месца займае Найсьвятая Багародзіца. З Евангельля сьв. Лукаша ведаем пра яе служэньне міласэрнасьці сваячцы Альжбеце, у якой Марыя заставалася каля трох месяцаў, каб дапамагаць ёй у апошні перыяд цяжарнасьці. У словах гімну "Узьвялічвае душа мая Госпада" *(Лк 1, 46)* Багародзіца выяўляе ўвесь сэнс свайго жыцьця: ня ставіць у цэнтры сябе, але пакінуць месца для Бога, Якога можна сустрэць у малітве, а таксама ў служэньні бліжняму, і толькі тады сьвет станецца лепшым.

Для Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы новая энцыкліка Сьвятога Айца — гэта каштоўны дар. Асабліва сымбалічна тое, што апублікавана яна ў годзе, які ў Царкве абвешчаны Годам Божай Міласэрнасьці. Як адзначае Бенядыкт XVI, *карытас* (міласэрнасьць) будзе патрэбная заўсёды, нават у самых разьвітых грамадзтвах, бо ў кожнай сітуацыі заўсёды будзе існаваць адзінота, будзе існаваць цярпеньне, якія патрабуюць суцяшэньня, падтрымкі й дапамогі. Таму словы Яго Сьвятасьці Бенядыкта XVI вельмі актуальныя і для нашай невялікай Царквы, якая таксама паступова разьвівае сваё сацыяльнае служэньне ў беларускім грамадзтве.

**а. Андрэй КРОТ**

# Апостальскі Нунцый сярод беларускіх грэка-католікаў

***У канцы мінулага 2005 году і напачатку 2006 году адбылося некалькі важных сустрэчаў беларускіх католікаў візантыйскага абраду (грэка-католікаў) з Апостальскім Нунцыем у Беларусі Яго Эксцэленцыяй Архібіскупам Марцінам Відавічам. Падчас адной з іх, якая мела характар Сынаксы, кіраўніцтвам БГКЦ было прынята рашэньне пра стварэньне двух Дэканатаў у нашай Царкве.***

Першая сустрэча адбылася на пачатку Калядаў. У панядзелак вечарам, 26 сьнежня 2005 году, у лацінскім салезіянскім касьцёле сьв. Яна Хрысьціцеля, што ў Серабранцы ў Менску, Найдастойны Уладыка Архібіскуп Марцін разам з Апостальскім Візітатарам для грэка-католікаў Беларусі Дастойным Архімандрытам Сяргеем (Гаекам) узначалілі Боскую Літургію. Ім саслужылі сьвятары візантыйскага і лацінскага абраду з розных гарадоў Беларусі. Гэта было патранальнае сьвята менскай грэка-каталіцкай парафіі Праведнага Язэпа, якая ў той дзень сьвяткавала 15 гадоў з моманту сваёй рэгістрацыі. Тая падзея стала пачаткам аднаўленьня душпастырскай дзейнасьці грэка-каталіцкіх парафіяў у Беларусі.

У Боскай Літургіі ў гэты дзень беларускія грэка-католікі выказалі падзяку Сьвятому Апостальскаму Рымскаму Пасаду і ягоным Прадстаўнікам – Апостальскім Нунцыям у Беларусі, ватыканскай Кангрэгацыі Усходніх Цэркваў, а таксама беларускім рыма-каталіцкім біскупам, сьвятарам і вернікам, якія на працягу 15-ці гадоў аказвалі ім пастырскую і братэрскую падтрымку.

У гаміліі Апостальскі Нунцый Архібіскуп Марцін Відавіч падкрэсьліў вялікую ролю, якую ў аднаўленьні душпастырскай дзейнасьці грэка-каталіцкіх парафіяў 15 гадоў таму споўнілі сьвецкія вернікі. Таксама ён узгадаў асаблівую гадавіну, якая выпадала якраз на дзень 26 сьнежня – 65-ыя ўгодкі сьмерці беларускага каталіцкага сьвятара візантыйскага абраду айца Баляслава Пачопкі – выдатнага душпастыра і дзеяча культуры. *(Тэкст гаміліі Нунцыя глядзіце на с.6-7).*

Ва ўрачыстасьці ўдзельнічалі высокія прадстаўнікі Камітэту па справах рэлігіяў і нацыянальнасьцяў і афіцыйныя асобы з Менскага гарвыканкаму. Ад іх імя словы прывітаньня ўсім прысутным у храме перадала спадарыня Ала Рабіцава.

У той самы дзень перад Боскай Літургіяй Уладыка Архібіскуп Марцін прыняў у Апостальскай Нунцыятуры беларускіх грэка-каталіцкіх семінарыстаў.

28 студзеня 2006 году Апостальскі Нунцый сустрэўся ў тым жа самым касьцёле сьв. Яна Хрысьціцеля ў Менску з духавенствам і вернікамі візантыйскага абраду, якія ўдзельнічалі ва ўрачыстасьці сьв. Яна Боскі. У сваім казаньні *(гл. на с.7)* Уладыка Марцін зьвярнуў увагу на прыгожае сьведчаньне каталіцкасьці і братняй любові, калі католікі лацінскага абраду шчыра запрашаюць у свае сьвятыні сваіх братоў візантыйскага абраду, якія ня маюць пакуль уласных храмаў.

Працяг на с.20 ⇨





• *Менск, 26.12.2005. Апостальскі нунцый на ўрачыстасьцях парафіі Праведнага Язэпа.*

## СЛОВА

### НАЙДАСТОЙНАГА АПОСТАЛЬСКАГА НУНЦЫЯ Ў БЕЛАРУСІ ЯГО ЭКСЦЭЛЕНЦЫІ АРХІБІСКУПА МАРЦІНА ВІДАВІЧА

**на сьвяткаваньні патранальнага сьвята парафіі Праведнага Язэпа ў Менску, 26 сьнежня 2005 году**

*Боская Літургіі сьв. Яна Залатавуснага ў касьцёле лацінскага абраду сьв. Яна Хрысьціцеля ў Менску*

**1.** Мір вам!

Гэтымі словамі Ўваскрослага Госпада *(пар. Лк 24, 36; Ян 20, 19-26)*, у якіх адбіваецца рэхам сьпеў нябеснага хору ў начы Раства Хрыстовага *(пар. Лк 2, 14)*, вітаю вас, дарагія браты і сёстры, у гэты вялікі дзень, калі мы адзначаем сьвята Багародзіцы, а таксама сьвята Праведнага Язэпа, нябеснага Апекуна вашай парафіяльнай супольнасьці.

Мір вам! *(пар. Лк 24, 36; Ян 20, 19-26)*. "Мір вам усім, хто ў Хрысьце Ісусе" *(1 Пт 5, 14)* і каторых любіць Бог *(пар. Лк 2. 14)*.



Гэтыя калядныя, і ў той жа час велікодныя словы маюць асаблівую важкасьць таксама з нагоды гадавога сьвята, якое мы сёньня адзначаем, поўныя ўдзячнасьці Богу, ад Якога "зыходзіць кожнае добрае даньне і кожны дасканалы дар" *(Як 1, 17)* і Які любіць нас *(пар. Лк 2, 14)*. Глыбокая ўдзячнасьць напаўняе сёньняшнюю Боскую Літургію, Еўхарыстыю, якая дакладна і азначае "прынашэньне падзякі, удзячнасьць".

**2.** Учора з неабсяжнай радасьцю мы сьвяткавалі і захапляліся Таямніцай Нараджэньня нашага Госпада, Збаўцы чалавецтва. Сёньня з той жа радасьцю мы сузіраем Найсьвяцейшую Маці Божую, Дзеву Марыю, і ўшаноўваем сьвятога Язэпа Праведнага, пра адказнасьць якога сьведчыць евангеліст Мацьвей ва ўрыўку Евангельля, урачыста абвешчанага падчас гэтай Боскай Літургіі *(Мц 2, 13-23)*.

Дзева Марыя і Язэп – гэта дзьве наразлучныя асобы ў дзеі нараджэньня Ісуса ў Бэтлееме. Яны абое з асаблівай выразнасьцю нагадваюць нам пра неабходнасьць заставацца вернымі Богу так, як Ён Сам застаецца верным сваім абяцаньням. Пра такую ж вернасьць сьведчыць таксама аўтар Пасланьня да Габрэяў, які ў нядаўна прачытаным урыўку хацеў нагадаць, што Ісус народжаны ў Бэтлееме – брат людзей *(пар. Габ 2, 11-17)*. Каб падкрэсьліць рэалізм Уцелаўленьня, ён нагадвае нам велізарную годнасьць, якую мы маем, як дзеці Божыя, бо мы браты Ісуса. Ён – значыць Той, хто асьвячае, і мы –

• *Менск, 28.01.2006. урачыстасьць у гонар сьв. Яна Боскі. Дзеці вітаюць Апостальскага Нунцыя. Фота Cathoilic.by.*

тыя, што асьвячаюцца, усе – ад Аднаго *(пар. Габ 2, 11)* і, як супольнікі цела і крыві, мы з Ім адно цэлае *(пар. Габ 2, 14)*.

Сузіраючы Ісуса з Яго Маці і Праведнага Язэпа побач, думаецца: якой жа сьвятой зьяўляецца сям'я, кожная сям'я, якую Бог хацеў замацаваць Сакрамантам Сужэнства, і як высокае ейнае пакліканьне. І сапраўды гэта пакліканьне вельмі высокае і сьвятое: пакліканьне кожнай чалавечай сям'і. Мы не павінны баяцца, менавіта так, як Марыя *(пар. Лк 1, 30)* і Язэп *(пар. Мц 1, 20)*. Госпад з намі і з сям'ёй *(пар. Лк 1, 28)*.

**3.** Дарагія браты і сёстры, я асабліва рады быць сярод вас і перадаць вам прывітаньне Сьвятога Айца Бенядыкта XVI. Ён жадае вам мужна прадоўжыць ваш шлях веры, надзеі і любові, і сардэчна вас бласлаўляе.

Са свайго боку, я ўзнаўляю ўжо выказанае прывітаньне і сардэчна вітаю кожнага з вас паасобку, пачынаючы з пачэснага Архімандрыта Сяргея Яна Гаека, Апостальскага Візітатара, і шаноўнага Айца Андрэя Абламейкі, пробашча гэтай супольнасьці, а таксама іншых тут прысутных каталіцкіх сьвятароў, як абраду візантыйскага, інакш грэцкага, так і абраду рымскага, інакш лацінскага.

Сардэчна вітаю таксама прадстаўнікоў дзяржаўных уладаў. Іхняя прысутнасьць – гэта знак рэлігійнай свабоды, якая цяпер існуе ў гэтай улюбёнай Краіне, і знак павагі, якую дзяржаўныя ўлады маюць да рэлігійных супольнасьцяў, гарантуючы ім у законе роўныя магчымасьці працы і разьвіцьця.

**4.** Менавіта сёньня адзначаецца 15-годдзе аднаўленьня душпастырскай дзейнасьці і дзяржаўнай рэгістрацыі парафіяў Царквы візантыйскага, інакш грэцкага абраду ў Беларусі, якую традыцыйна называюць Грэка-Каталіцкай. Дзякуем Богу за гэты вялікі дар. У Менску першая грэка-каталіцкая парафія была зарэгістраваная восеньню 1990 году.

Узгадваючы гэтыя падзеі, трэба прызнаць вялікую ролю, якую ў аднаўленьні душпастырскай працы на парафіяльным узроўні адыгралі сьвецкія вернікі. Выказваю ім падзяку за выкананую працу і заахвочваю іх мужна працягваць іхняе апостальскае заданьне, што зыходзіць з прынятага Хросту і Мірапамазаньня, і перш за ўсё складаць хрысьціянскае сьведчаньне ў розных кругах, сямейных і грамадзкіх. Няхай Праведны Язэп і ў будучым дапамагае вам у вашым высакародным заданьні.

І менавіта ў гэтым кантэксьце мне прыемна прыгадаць яшчэ адныя значныя ўгодкі: 65-годдзе сьмерці вялебнага Айца Баляслава Пачопкі, сьвятара візантыйскага абраду, які адзначаўся сваёй пастырскай руплівасьцю ў Косаўскім павеце (у парафіі Бабровічы), а таксама праз дзейнасьць на глебе беларускай мовы і культуры. Дзякуючы яго намаганьням і вытрываласьці, сучасная беларуская мова атрымала адну з першых Граматык, надрукаваную ў Вільні ў 1918 годзе. Той сьвятар, які памёр 26 сьнежня 1940 году ў Целяханах, недалёка ад Пінску,– гэта не адзіны прыклад вялікага ўкладу, які сьвятары і вернікі Каталіцкай Царквы абодвух абрадаў, як візантыйскага, інакш грэцкага, так рымскага, інакш лацінскага, унесьлі і працягваюць уносіць і сёньня ў разьвіцьцё культуры дарагіх народаў Беларусі, каб Евангельле было зачынам грамадзтва, дзеля дабра ўсіх грамадзянаў гэтай дарагой Краіны.

**5.** Найсьвяцейшая Маці Божая і сьвяты Язэп, названы Праведным, няхай падтрымліваюць Каталіцкую Царкву ў Беларусі ў ейным апостальскім клопаце, у верным і нястомным абвяшчэньні Евангельля і ў шчодрым служэньні справе чалавека гэтай зямлі. Каб Царква, насьледуючы прыклад Марыі і Язэпа, змагла поўнасьцю аддацца выкананьню Божай волі і Божага плану збаўленьня ў гэтай частцы сьвету, у любімай Беларусі.

Разам з Найсьвяцейшай Маці Божай – Маці адкупленага чалавецтва, у лучнасьці са сьвятым Язэпам выкажам падзяку Богу, Які любіць нас і бласлаўляе нас у Хрысьце ўсякім духоўным блаславеньнем на нябёсах *(пар. Эф 1, 3)*, і засьпяваем "на хвалу велічы ласкі Ягонай, якой Ён абдарыў нас у Сваім умілаваным Сыне" *(Эф 1, 6)*. Няхай сьпеў праслаўленьня Найсьвяцейшай Тройцы разносіцца рэхам сёньня і на ўсе часы.

З гэтымі думкамі сардэчна віншую з Нараджэньнем Хрыстовым усіх вас і вашыя сем'і. Хай Бог блаславіць вас і вашыя сем'і, ваш і мой горад Менск, і ўсю Беларусь! Мір хай будзе з вамі *(пар. Лк 24, 36; Ян 20, 19-26)*. "Мір вам усім, хто ў Хрысьце Ісусе" *(1 Пт 5, 14)* і каторых любіць Бог *(пар. Лк 2, 14)*. Амін.



*• Менск, 28.01.2006. Каталіцкія сьвятары лацінскага і візантыйскага абрадаў на ўрачыстасьці ў гонар сьв. Яна Боскі.*

*Фота Cathoilic.by.*

# "Прыгожае сьведчаньне каталіцкасьці і адзінства"

***28 студзеня 2006 году ў парафіі сьв. Яна Хрысьціцеля ў Менску адзначаўся ўспамін сьв. Яна Боскі (Заснавальніка супольнасьці Айцоў Салезіянаў). Сьвятую Імшу для вернікаў парафіі і для мясцовай Салезіянскай Супольнасьці ўзначаліў Апостальскі Нунцый у Беларусі Архібіскуп Марцін Відавіч. У сваім казаньні Найдастойны Ўладыка Марцін сярод іншага зьвярнуў увагу на сымбалічнасьць і вартасьць гасьціны, якую каталікі лацінскага абраду аказваюць католікам візантыйскага абраду.***

*Ніжэй падаем фрагмент казаньня Апостальскага Нунцыя. Захоўваем асаблівасьці мовы арыгіналу.*

Дарагія Браты і Сёстры! Разважаючы над Божым Словам, якое мы пачулі на сёньняшняй Урачыстасьці, хачу прывітаць вас і вашыя сем'і і блаславіць ад усяго сэрца.

Перадаю асаблівае і сардэчнае прывітаньне спадарыні Але Мікалаеўне Рабіцавай, якая прадстаўляе ўлады горада Менску. Дзякую за Вашую прысутнасьць, якая зьяўляецца сьведчаньнем добрых адносінаў паміж уладамі і Касьцёлам.

Хачу асабліва прывітаць вашага пробашча Ксяндза Ігара Лашука разам з іншымі сьвятарамі з Салезіянскай Супольнасьці, якія працуюць у гэтай парафіі і ў горадзе Менску.

Вітаю таксама ўсіх прысутных тут сьвятароў лацінскага (або рымскага) абраду, а таксама візантыйскага (або грэцкага) абраду. Гэта прыгожае сьведчаньне каталіцкасьці і адзінства, якога так жадаў Хрыстус і за якое Ён з усёй сілаю маліўся Айцу падчас Апошняй Вячэры: "Каб паверылі сьвет" *(пар. Ян 17, 20-21)*.

Я з прыемнасьцю хацеў бы нагадаць, што менавіта ў гэтай сьвятыні вернікі лацінскага, або рымскага, абраду і вернікі візантыйскага, або грэцкага, абраду цэлебруюць Найсьвяцейшую Еўхарыстыю, даючы пры гэтым прыгожае сьведчаньне любові перад многімі сьведкамі *(пар. 1 Цім 6, 12)*. Тое самае я хацеў бы сказаць пра касьцёл сьвятых Сымона і Алены, што завецца «Чырвоным касьцёлам», пробашчам якога зьяўляецца Ксёндз Уладзіслаў Завальнюк, які знаходзіцца сярод нас.

У гэтых двух выпадках мы назіраем прыгожы прыклад велікадушнасьці і міласэрнасьці, а таксама канкрэтнае сьведчаньне ў прапаведваньні веры для дабра душаў, так, як рабіў гэта сьвяты, якога сёньня ўспамінаем. Эклезіяльныя Супольнасьці, якія зьбіраюцца ў гэтым касьцёле і ў «Чырвоным», дзеляцца з радасьцю сваім памяшканьнем, каб ніхто ня быў у патрэбе *(пар. 2 Кар 8, 14)* і каб усе мелі належнае месца для літургічных цэлебрацый.

Няхай Пан узнагародзіць сваім бласлаўленьнем гэтыя касьцёльныя Супольнасьці, якія сьведчаць гэтую любоў і каталіцкасьць, каб узрасталі разам у веры і надзеі, дапамагаючы гэтаму гораду і гэтай дарагой Краіне прымаць Евангельле і верыць у яго.



# Ян Павел II:
## ад літары да чалавека

*“Гэты Папа –*
*сапраўдны скарб з неба”.*
*Аляксандар САЛЖАНІЦЫН*

Аднойчы адзін сьвятар мяне запытаў: “Як ты думаеш, што азначаюць словы апостала Паўла пра “абразаньне сэрца”? *(Пар. Рым 2, 29)* Што можа азначаць: “Абрэзаць сваё сэрца?”– “Думаю, што гэтыя словы адносяцца да старазапаветнага Майсеевага закону пра абразаньне цела на знак угоды з Богам, якое павінна было пакінуць свой сьлед на сэрцы”.

Гэта праўда. Але рэчаіснасьць біблійнага абразаньня можа мець і больш глыбокі сэнс. Нам, хрысьціянам, часта пагражае спакуса фармалізму, які не дазваляе весьці глыбокае духоўнае жыцьцё паводле евангельскіх вартасьцяў, а засяроджвае нас толькі на павярхоўным служэньні на карысьць самой ідэі альбо выкананьні правілаў і абавязкаў, якія зьяўляюцца толькі адпаведнымі сродкамі, а не самой мэтай нашага хрысьціянскага пакліканьня. За кожным сымбалем альбо правілам, забаронай альбо ідэяй хрысьціянін павінен шукаць глыбокі сэнс дабра асобнага чалавека альбо супольнасьці ці нават грамадзтва. Менавіта так і з сымбалем біблійнага абразаньня плоці, які нельга ўспрымаць толькі ў літаральным значэньні хірургічнага дзеяньня, пакінуўшы без увагі глыбокі духоўны сэнс гэтага рэлігійнага звычаю. Такім чынам балючая цялесная аперацыя, якая пакідала на ўсё жыцьцё свой сьлед, для выбранага народу мела нагадваць пра знак Запавету з Богам, таксама незьнішчальны і прысутны ня толькі ў памяці, але і ўсьвядомасьці, на сэрцы, на целе – на ўсіх прасторах чалавечага жыцьця і ва ўсіх галінах ягонай дзейнасьці.

Пантыфікат Яна Паўла II быў часам істотных пераменаў у жыцьці Каталіцкай Царквы. З Божага Провіду гэты перыяд таксама супаў з часам вялікіх пераменаў у менталітэце грамадзтва і сьвету, са зьменамі шматлікіх сацыяльных і гаспадарчых сістэмаў, з рознымі пераўтварэньнямі на міжнароднай арэне палітычных стасункаў. У гэтых новых акалічнасьцях сьвету Папа Ян Павел II дасканала адкрыў трывалы і беспамылковы шлях для сябе і для ўсёй Царквы. Людзкая асоба, са сваімі праблемамі і бедамі, надзеямі і расчараваньнямі, сталася сапраўдным цэнтрам дзейнасьці і навучаньня Сьвятога Айца. Гэты шлях Царквы, якім яна, адыходзячы ад фармальных сістэмаў кіраваньня, усё больш імкнулася наблізіцца да асобнага чалавека ў дзейсным служэньні, ужо быў пачаты ягонымі папярэднікамі, аднак Ян Павел II яго ня толькі прайшоў са сваёй паствай, але па-сапраўднаму ўзначаліў, ва ўсёй паўнаце сэнсу гэтага слова.

Няцяжка заўважыць, якія перамены адбыліся з прыходам на Рымскі Пасад Яна Паўла II, які зьдзейсьніў 102 місійныя падарожжы па ўсім сьвеце. Новы Папа бачыў Царкву ня толькі як інстытуцыю альбо механізм кіраваньня, але перадусім як супольнасьць хрысьціянаў – паству, што ведае свайго Пастыра. Сваё навучаньне Ян Павел II не абмяжоўваў прыгожымі словамі, ён прагнуў быць са сваім народам, прагнуў адказваць на ўсе актуальныя праблемы сучаснага сьвету. Нельга было не заўважыць, які велізарны душпастырскі дар меў гэты чалавек. Ужо ад пачатку свайго пантыфікату Ян Павел II бачыў чорныя хмары, якія навісьлі над хрысьціянскай сям'ёй. Аборты, кантрацэпцыя, сэксуальная разьвязнасьць, рост колькасьці разводаў і нецаркоўных шлюбаў – усё гэта абуджала ў ягоным сэрцы неспакой пра будучыню сям'і.

“Я – Папа жыцьця і адказнага бацькоўства, не дастаткова толькі бараніць правы сям'і, але трэба клапаціцца і дапамагаць ёй”,– кажа Папа Ян Павел II 30 кастрычніка 1978 году ўжо на першай сваёй сустрэчы з сем'ямі. А ўжо ў 1981 годзе ён утварае Папскую Раду па справах сям'і, якой даручае пільны клопат і апеку над хрысьціянскімі сем'ямі.

Амаль ад першых хвілінаў пантыфікату бачны яшчэ адзін прыярытэт новага Папы Яна Паўла, якому ён застанецца верны праз усё жыцьцё – клопат пра хворых і ўбогіх. Так, напрыклад, не зьвяртаючы ўвагі на шматлікія цяжкасьці і клопаты, зьвязаныя з кіраваньнем Царквой, Ян Павел II едзе адведаць свайго хворага сябра архібіскупа Андрэя Дэскура. Потым пачынаюцца шматлікія пілігрымкі Папы ў розныя канцы сьвету, дзе ён заўсёды знаходзіў час на спатканьне з хворымі. Нават пракажоныя атрымлівалі ласку дакрануцца да бласлаўлёнай рукі свайго пастыра. Інакш, хіба, ня мог чыніць Папа, які пісаў: “Асаблівую ўвагу трэба ўдзяляць сёньня таксама клопату пра ўбогіх, хворых і тых, хто жыве на маргінесе грамадзкага жыцьця” *(“Дар і Таямніца”)*.

У навучаньні Яна Паўла II хвароба прыдбала новы глыбокі аспект. Папа бачыў у хворым чалавеку ня толькі гуманны заклік да спачуваньня й дапамогі, але і праяву глыбокай таямніцы цярпеньня, жыцьцёвую сілу хрысьціянства: “Хвароба для таго, хто можа яе прыняць з любоў'ю, можа стаць містычным яднаньнем з Хрыстом і каштоўным скарбам збаўленьня”.

Усім сваім жыцьцём і пастырскім служэньнем Ян Павел II прагнуў захаваць і пераказаць чыстую навуку Евангельля, паказаць, што Царква паклікана служыць людзям, разьдзяляючы іх цяжары і цярпеньні. У гэтай перспектыве невыпадковым здаецца і замах на жыцьцё, які здарыўся з Папам Янам Паўлам II у самым пачатку яго пантыфікату 13 траўня 1981 году, на сьвята Маці Божай Фацімскай. Рана, хвароба й боль сталіся вернымі спадарожнікамі ягонага служэньня Царкве аж да апошняй хвіліны жыцьця. А можа, каб служыць Богу і людзям трэба проста згадзіцца абрэзаць сваё сэрца, каб праз боль і цярпеньне быць разам з тымі за каго адказваеш?

**Алесь ШЫБЕКА**

---

*“**Чалавек нараджаецца для свабоды.** Ідэя свабоды можа зрабіцца рэальнасьцю толькі там, дзе людзі сумесна вераць у яе і жывуць ёй (...), дзе разам выступаюць за свабоду і разам змагаюцца за яе. Свабода знаходзіцца ў небясьпецы там, дзе людзі абмяжоўваюць свой погляд выключна колам уласнага жыцьця і не гатовыя бескарысьліва выступаць у інтарэсах іншых. А вось свабода, якую перажываюць сумесна, выражаецца ў справах у сферы палітыкі і грамадзтва ў інтарэсах справядлівасьці і поглядзе на свабоду іншых людзей.*

***Не існуе свабоды без салідарнасьці!***

*Чалавек нараджаецца для свабоды. Свабода – гэта надзвычай каштоўная рэч, за якую трэба заплаціць высокую цану. Яна патрабуе шырокай душы і гатоўнасьці да ахвяраў; патрабуе пільнасьці і адвагі супраць зьнешніх і ўнутраных сілаў, што пагражаюць ёй. Ахвяры на алтар свабоды кладуць тыя, хто ў імя аховы супраць зьнешніх і ўнутраных пагрозаў пагаджаецца панесьці страты, каб іх не панесьлі іншыя, часта рызыкуючы сваім здароўем або жыцьцём. Ніхто ня можа ўхіліцца ад асабістай адказнасьці за свабоду.* ***Не існуе свабоды без ахвяраў.**”*

***Ян Павел II***

# РАЗАМ

СТАРОНКІ ГРЭКА-КАТАЛІЦКІХ СЕМІНАРЫСТАЎ, выпуск № 5 (21)-2006



# ЦАРКВА — НАРОД БОЖЫ

Ва ўсякі час і ў кожным народзе Богу даспадобы той, хто баіцца Яго і чыніць па справядлівасьці. Але Бог пажадаў асьвячаць і збаўляць людзей не паасобку, без узаемнай сувязі, але вырашыў зрабіць іх народам, які вызнаваў бы Яго ў ісьціне і служыў бы Яму Аднаму ў сьвятасьці.

Паводле Катэхізісу Каталіцкай Царквы, Народ Божы мае ўласьцівасьці, якія выразна адрозьніваюць яго ад усіх у гісторыі рэлігійных, этнічных, палітычных ці культурных груповак:

— Ён — Народ *Божы*: Бог жа Сам не належыць ніякаму народу. Але Ён набыў Сабе Народ з тых, што раней не былі народам: “род выбраны, царскае сьвятарства, народ сьвяты” (1 Пт 2, 9).

— *Супольнікам* гэтага Народу становяцца не па фізічным нараджэньні, але “па нараджэньні” звыш (...) “ад вады і Духа” (Ян 3, 3-5), г. зн. праз веру ў Хрыста і хрост.



— Гэты Народ мае *Зьверхнікам* (Галавою) Ісуса Хрыста (Памазаньніка, Месію): таму як тое ж Памазаньне, Дух Сьвяты, зыходзіць з Галавы ў Цела, ён ёсьць “месіянскі Народ”.

— “*Стан* гэтага Народу — годнасьць і свабода сыноў Божых: у іх сэрцах Дух Сьвяты жыве, як у храме”.

— “Ён мае *законам* новае прыказаньне: любіць, як Хрыстос палюбіў нас”. Гэта “новы” закон Духа Сьвятога (Рым 8, 2; Гал 5, 25)

— Яго *місія* — быць сольлю зямлі і сьвятлом сьвету. Ён «зьяўляецца для ўсяго роду чалавечага наймацнейшым зачаткам еднасьці, надзеі і збаўленьня».

— Урэшце, яго *прызначэньне* — “Валадарства Божае, пачатае Самім Богам на зямлі, якое павінна ўсе болей пашырацца да тых часоў, пакуль напрыканцы вякоў будзе завершана Самім Богам”.

Тайна Царквы ад веку схавана ў Тайне Найсьвятой Тройцы. Яна мае на ўвазе сутнаснае адзінства, адзінства той звышсутнасьці, якая недаступна ні нашаму бачаньню, ні нашаму разуменьню — адзінства поўнае і найдасканалае. Паміж Асобамі Тройцы не існуе ніякага падзелу, ні адна з іх не валодае адзінай Сутнасьцю ў большай ступені, чым астатнія. Але ні адна з іх не пазбаўлена сваёй асаблівасьці, сваіх асабістых, адметных рысаў, якія вызначаюць іх Боскасьць, якія рэалізуюць у Тройцы асабісты пачатак, пачатак, у якім няма ні асобнасьці ад іншых, ні схаванасьці, ні супрацьстаяньня, але толькі дасканалая, вечная рэалізацыя канкрэтнасьці. Кожная асоба ў Найсьвятой Тройцы адкрыта іншым, жыве з імі ў вечным саюзе любові, аб'яўляючы ўсяму існаму ідэал асобы без разьдзяленьня.

Чалавек пакліканы стаць Богам, аб'яднацца з Тройцай, стаць' састаўной часткай адзінства Боскасьці. Чалавек па сутнасьці бясьсільны стварыць хоць які-небудзь моцны ўзор згоднага і гарманічнага жыцьця. Асабліва гэта праявілася пасьля грэхападзеньня. Толькі Богачалавек — сапраўдная мэта і сэнс усяго быцьця, толькі ў Ім і з Ім можа быць патлумачаны і зразумелы сьвет.

Сваім прыйсьцем Богачалавек Ісус Хрыстос стварыў з нас, чалавецтва, якое ўпала і разьяднался, новае стварэньне. Хрыстос у тайны спосаб “паяднаны з кожным чалавекам”. Царква — гэта Цела Хрыстова. І калі Містычнае Цела Хрыста ёсьць Народ Божы, то гэта значыць, што кожны чалавек, які знаходзіцца ў Целе Хрыстовам, напоўнены дыханьнем жыцьця, што ідзе ад Хрыста. Таксама і Царква як цела, як арганізм, як сацыяльная супольнасьць, зьвяртаючыся да чалавека, да яго надзённых пытаньняў, яго надзеяў і цярпеньняў, перамогаў і падзеньняў, атрымлівае тую ж боскую энэргію, сілу і сьвятло Духа Сьвятога, які зыходзіць ад Хрыста, укрыжаванага і ўваскрослага. І ў гэтым яна атрымлівае сэнс свайго існаваньня. У Царквы няма іншага жыцьця, акрамя таго, якое яна атрымлівае ад свайго Сужонка і Госпада. Сувязь Царквы з кожным чалавекам павінна быць такой жа моцнай, як і яе сувязь з Хрыстом у Яго Служэньні як Адкупіцеля.

Асоба кожнага хрысьціяніна ў сілу нашага аб'яднаньня з Сынам Божым становіцца далучанай да ўнутранага жыцьця Сьвятой Тройцы. Поўня сілаў і дароў, атрыманых чалавекам у Царкве,– гэта поўня энэргіяў Духа Сьвятога. У гэтым і ёсьць абагаўленьне чалавека, бо ён у поўнай меры пранікаецца гэтымі энэргіямі, жыве, рухаецца і існуе імі.

**Сяргей ГЛЕЙША**

# ЦАРКВА І СЕКТА

**Сёньня пашэрэньне ў сьвеце рэлігійных сектаў стала знакам часу. Іншым разам нават на адрас нашай невялікай Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы можна пачуць абвінавачаньні ў сектанцтве. У 1986 годзе Ватыкан выдаў сьпецыяльны рапарт «Секты, або новыя рэлігійныя рухі. Заклік да пастыраў», які стаў асновай для напісаньня гэтага артыкулу.**

Што ж зьяўляецца асноўнай прычынай такой папулярнасьці сектаў? Коратка можна сказаць — крызіс цывілізацыі. Новыя рэлігійныя рухі сталі своеасаблівым пратэстам супраць паняволеньня асобы, якая заблыталася ў колькасьці абавязкаў, што ніякім чынам не ўлічваюць вялікае прызначэньне чалавека — жыцьцё з Богам. Секты прапануюць звальненьне ад націску грамадзкіх правілаў і нормаў, задавальненьне найбольш глыбокіх чалавечых патрэбаў.

Для здабыцьця новых сябраў у сектах выкарыстоўваюць пэўныя спосабы прапаганды і вярбоўкі. Спынімся найперш на некаторых псіхатэхнічных метадах магчымых маніпуляцыяў:

— *«бамбардаваньне любоўю»*, г. зн. акружэньне патэнцыйнага члена секты выключнай сардэчнасьцю;

— *аказаньне паступовага ціску* на рашэньні ўдзельніка секты, у асноўным праз моц групы;

— *перабудова сьвядомасьці*, абапіраючыся на падаўленьне самасьвядомасьці, абмежаваньне доступу да зьнешняй інфармацыі.

— *перабольшваньне ролі лідара*, якому вераць бязьмежна.

Працяг на с.20 ⇨



# Чын Найсьвяцейшага Адкупіцеля

***У гэтым нумары пачынаем новую рубрыку "Школа Найсьвяцейшага Адкупіцеля". Весьці яе будзем мы, манахі-рэдэмптарысты з Беларусі, што цяпер вучацца ў Львове. Нас пакуль што толькі двое, але верым, што хутка наша супольнасьць павялічыцца. У гэтай рубрыцы мы будзем асьвятляць тэмы, адпаведныя харызме нашага Чыну. Адначасова мы будзем ажыцьцяўляць і сваю місію, да якой пакліканыя, рэалізуючы яе праз друкаванае слова. Але для пачатку лічым неабходным пазнаёміць чытачоў з тым, што ўяўляе сабой наш Чын і чым ён займаецца.***

Чын Найсьвяцейшага Адкупіцеля, або Ордэн рэдэмптарыстаў *(ад лац. "redemptoris" – адкупіцель)* быў заснаваны сьв. Альфонсам Лігуоры ў Італіі ў 1732 г. Задачай, якую сьвяты заснавальнік паставіў перад новым таварыствам, было прапаведаваньне Добрай Навіны ўбогім. "Ён памазаў Мяне зьвеставаць убогім" (Лк 4, 18). Менавіта праца сярод найбольш апушчаных і ёсьць нашай харызмаю, гэта тое, да чаго мы пакліканыя ў першую чаргу. "Убогімі" мы лічым людзей, духоўна апушчаных з розных прычын грамадзкага жыцьця, таксама тых, хто ўвогуле ня чуў Евангельля, і тых, якія не прымаюць Хрыста або адвярнуліся ад Царквы. Акрамя таго рэдэмптарысты маюць заданьне місіі сярод вернікаў дзеля іх пастаяннага навяртаньня і асьвячэньня. Асабістае навяртаньне давяршаецца ў царкоўнай супольнасьці. Таму мэта нашай місійнай дзейнасьці – стварэньне ії выхаваньне такіх супольнасьцяў, якія адпаведным ім чынам бяруць удзел у трайным служэньні Збаўцы – сьвятарскім, прароцкім і царскім.

Удзел вернікаў у ***сьвятарскім служэньні*** адбываецца праз "усе ўчынкі, малітвы і апостальскія пачынаньні, сужонскае і сямейнае жыцьцё, штодзённую працу, адпачынак цела і душы, калі яны адбываюцца ў Духу, і нават праз жыцьцёвыя прыкрасьці, калі яны пераносяцца цярпліва, і тады ўсе яны робяцца духоўнымі ахвярамі, любаснымі Богу праз Ісуса Хрыста, і прыносяцца падчас Еўхарыстыі разам з ахвяраю Цела Гасподняга" *(Lumen gentium, 34)*. Удзел у ***прароцкім служэньні*** абавязвае сьвецкіх абвяшчаць Евангельле словам і справамі, сьмела выкрываючы праявы зла. Яны павінны дбаць пра тое, каб сіла Евангельля выявілася ў іхнім штодзённым жыцьці, жыцьці сям'і і грамадзтва. Праз прыналежнасьць да Хрыста, Уладара Сусьвету, сьвецкія бяруць удзел у Яго ***царскім служэньні*** і пакліканыя на пашырэньне Валадарства Божага ў гісторыі. Перадусім гэта праяўляецца ў духоўнай барацьбе, каб перамагчы ў сабе панаваньне граху, а затым – у служэньні міласэрнасьцю і справядлівасьцю "братам найменшым", у якіх прысутны Сам Ісус *(пар. Мц 25, 40)*.

Яшчэ адно з важных заданьняў рэдэмптарыстаў – дапамога сьвятарам дзеля ўзмацненьня іх веры і падтрыманьня надзеі ў душпастырскай працы ды выхаваньні моладзі, каб яна ўдзельнічала ў стварэньні новага чалавецтва.

Выконваючы сваю місію ў Царкве, Чын аб'ядноўвае братоў, якія жывуць разам, утвараючы адну супольнасьць. Такі лад жыцьця найбольш пасьпяхова рыхтуе дарогу любові. Найпершай задачай кожнага рэдэмптарыста, як, зрэшты, і кожнага хрысьціяніна, ёсьць асабістае асьвячэньне і яднаньне з Богам. Адзін з прынцыпаў сьвятара, напісаны сьв. Альфонсам, гучыць: "Сьвятар, каб стаць вадаправодам, спачатку павінен стаць вадазборам". Каб нам мець з чым ісьці да людзей і што ім даваць, трэба самім напоўніцца Духам Сьвятым і яго пладамі, "а плод Духа: любоў, радасьць, згода, доўгая цярплівасьць, добрасьць, міласэрнасьць, вера, лагоднасьць, устрымлівасьць" *(Гал 5, 22-23)*. Праз малітву, самаадданасьць, евангельскую любоў, сумесную працу мы імкнемся да таго, каб "пазбыцца разам з мінулым жыцьцём старога чалавека, які парахнее ў падманных пахаціцтвах, дый абнавіцца духам розуму вашага і апраніцца ў новага чалавека, створанага на падабенства Божае, у праведнасьці і сьвятасьці ісьціны" *(Эф 4, 22-24)*.



• Складаньне манаскіх зарокаў у рэдэмптарыстаў

Зьвяртаючыся зноў да тэмы сьвецкіх у Царкве, узгадаем словы сьв. Францішка Сальскага, вялікага настаўніка духоўнасьці сьвецкіх, якога вельмі шанаваў наш заснавальнік сьв. Альфонс: "Бог загадвае хрысьціянам прыносіць плады пабожнасьці адпаведна стану і пакліканьню кожнага. Па-свойму выяўляе пабожнасьць шляхта, інакш – рамеснік ці слуга, яшчэ інакш – князі, па-свойму – удава, дзяўчына ці замужняя жанчына. І гэта яшчэ ня ўсё. Трэба, каб кожная асоба прыстасавала спосаб пабожнасьці да сваіх сілаў, заняткаў і абавязкаў... Бо гэта памылка, якая супярэчыць веры,– выключэньне веры з войска, майстэрні, княскага двара, сужонскага жыцьця".

Запрашаем цікаўных хлопцаў пажыць у нашым манастыры, каб пазнаёміцца з манаскім жыцьцём, а дзяўчат – да сёстраў-рэдэмптарыстак *(інфармацыю гл. на сайце: www.cssr.lviv.ua)*.

**бр. Зьміцер ЧАРНЕЛЬ (CSsR)**

# Сьв. Альфонс Лігуоры – заснавальнік ОРДЭНА РЭДЭМПТАРЫСТАЎ



Сьв. Альфонс Марыя дэ Лігуоры нарадзіўся 27 верасьня 1696 году ў мясцовасьці Марыянэла *(Marianella)* каля Неапаля.

Ва ўзросьце 17-ці гадоў ён абараніў двайны дактарат з сьвецкага і царкоўнага права, стаў адным з найвядомых адвакатаў Неапаля. Але, несправядліва прайграўшы адну справу, Альфонс Лігуоры пабачыў сьвет такім, якім ён ёсьць сапраўды, з усімі яго заганамі. Ён вырашыў цалкам зьмяніць свой лад жыцьця – паступіў у духоўную семінарыю. У 30-гадовым узросьце ён стаў сьвятаром і прысьвяціў сваё служэньне найперш нізам грамадзтва.

У 1732 годзе да справы евангелізацыі найбольш пакінутых Альфонс далучыў групу сьвятароў: так зьявіўся Чын Найсьвяцейшага Адкупіцеля (скарочана па-лацінску – CSsR). 13 гадоў Альфонс Лігуоры быў біскупам.

Апошнія гады жыцьця правёў у італійскім кляштары Пагані, дзе памёр у сьвятасьці 1 жніўня 1787 году. Пакінуў пасьля сябе болей за 100 прац. У 1816 годзе быў беатыфікаваны, а ў 1839 – кананізаваны. Сьвяты Альфонс абвешчаны Доктарам Царквы ды Апекуном спаведнікаў і багасловаў-маралістаў.

# ПРА ЗМАГАНЬНЕ СА СПАКУСАМІ

***З твору сьв. Альфонса "Як любіць Ісуса Хрыста"***

[Супраць спакусаў] настаўнікі духоўнага жыцьця называюць шмат сродкаў, але найважнейшы — клікаць з пакораю і надзеяй: *"Пасьпяшайся, Божа, вызваль мяне, пасьпяшайся, Госпадзе, на дапамогу мне!" (Пс 69, 2)* І гэтай малітвы хопіць, каб перамагчы ўсе атакі пекла, бо Бог бясконца больш магутны за ўсе злыя духі разам. Бог ведае, што мы самі ня ў сіле абараніцца ад спакусаў. Таму, калі знаходзімся ў небясьпецы ўпадку і молімся, Бог [...] абавязаны даць нам сілу для перамогі.

Мы ня можам сумнявацца ў дапамозе Ісуса Хрыста, бо Ён Сам сказаў: *"Прыйдзеце да Мяне, усе струджаныя і прыгнечаныя, і Я супакою вас" (Мц 11, 28).* Калі вы струджаныя ў барацьбе са спакусамі, прыйдзеце да Мяне, кажа Госпад, і Я абнаўлю вашыя сілы. *Пакліч Мяне ў дзень смутку; Я ўратую цябе, і ты ўславіш Мяне (Пс 50, 15).* Калі цябе мучаць ворагі, кліч Мяне. Я вызвалю цябе з іх рук, і будзеш мяне славіць. [...]

Калі б людзі ў час спакусы клікалі Бога — не грашылі б! [...] Хто не зьвяртаецца да Бога, пэўна, упадзе ў грэх, асабліва ў спакусах супраць сьвятой чысьціні. [...] Спакусы супраць чысьціні і веры трэба перамагаць адразу, стараючыся адкінуць іх праз акт любові да Бога, акт жалю за грахі, а найперш перавесьці ўвагу на якісьці іншы прадмет. Калі прыходзіць спакуса, трэба яе адразу ж адкінуць, зачыніць перад ёю дзьверы, не дазваляць пранікнуць у наш розум і не разважаць над ёй. З дрэннай думкай трэба паводзіць сябе як з іскраю, што трапляе на нашае адзеньне. Такую іскру мы як найхутчэй скідваем!

Калі ж нячыстая думка ўжо ўвайшла ў розум і ўзрушыла пачуцьці, тады трэба адразу маліць Бога пра дапамогу, называючы сьвятыя імёны Ісуса і Марыі, якія, як кажа сьв Еранім, маюць асаблівую сілу супраць спакусаў. [...]

Калі спакуса не пакідае, трэба быць уважным, каб не зьбянтэжыцца і ня гневацца на сябе. Злы дух якраз можа выкарыстаць момант такой зьбянтэжанасьці і прывесьці нас да ўпадку. Тады трэба пакорна аддацца на волю Госпада, які дапусьціў гэту спакусу і сказаць: "Я сапраўды заслужыў на гэтую спакусу як кару за мае грахі, але Ты, Госпадзе, зьмілуйся нада мною, дапамажы мне ды ня дай упасьці!".

Трэба клікаць імёны Ісуса і Марыі, як бы доўга ні трывала спакуса. Добра таксама адпавіць пастанову лепш перанесьці самыя цяжкія мукі і нават сьмерць, чым абразіць Бога. Пры гэтым, аднак, ня трэба пераставаць прасіць пра Божую апеку. Калі б спакуса была такая моцная, што стварала б нам вялікую небясьпеку ўпадку, то мы павінны ўзмоцніць малітвы, зьвярнуцца да Ісуса Хрыста ў Сьвятой Тайне Еўхарыстыі, кінуцца да ног Укрыжаванага або перад абразом Усячыстай Дзевы Марыі і моцна маліцца. Гэта праўда, што Бог гатовы выслухаць нас і што якраз Бог, а не нашае стараньне, дае нам сілу вытрываньня. Але Госпад часам хоча, каб мы зрабілі найперш тое, што ў нашых сілах, а толькі потым ратуе нашу немач і дае перамогу.

Падчас спакусаў добра таксама часьцей рабіць на сабе знак сьв. крыжа і выяўляць думкі, якія нас трывожаць, духоўнаму кіраўніку. Сьв. Філіп Нэры кажа, што выяўленая спакуса тады ўжо напалову пераможаная. [...] Але паўтараю, што найэфектыўнейшы і найнеабходнейшы сродак супраць спакусаў — гэта шчырая малітва і гэтая малітва павінна працягвацца так доўга, пакуль спакуса не адступіць. Часта бывае так, што Бог дае нам перамогу не пасьля першай малітвы, а пасьля другой, трэцяй або нават чацьвёртай. Адным словам, трэба быць перакананымі, што ад малітвы залежыць нашае збаўленьне, выпраўленьне нашага жыцьця, перамога над спакусамі, любоў Божая, дасканаласьць, вытрываньне ў добрым і вечнае шчасьце.

*Падрыхтаваў*

**бр. Апалінар НІКАЛАЕЎ (CSsR)**

# ЦАРКВА І СЕКТА

⇨ Заканчэньне са с.9

Каб лепей зразумець *прычыны пэўнага посьпеху сектаў* у сучасным сьвеце, зьвернемся таксама да асноўных патрэбаў чалавека, якія абяцаюць задаволіць секты:

– **патрэба прыналежнасьці і пачуцьця супольнасьці**, якая абвастрылася ў выніку зьнішчэньня многіх традыцыйных і натуральных асяродкаў, напрыклад, дому;

– **патрэба яснасьці і сэнсу** актуальная тым больш, што сёньняшні сьвет, які хутка зьмяняецца, патрабуе ад людзей вялікіх намаганьняў, каб зьберагчы раўнавагу і псіхічнае здароўе.

– **патрэба гармоніі,** якая вынікае з адчуваньня страты кантакту з самім сабой, атачэньнем і культурай.

– **праблема індывідуальнасьці,** што вынікае з атамізацыі сучаснага жыцьця – адасабленьня, засяроджанасьці выключна на асабістых інтарэсах, інтарэсах сваёй сям'і.

– **патрэба трансцэндэнцыі**, або пошук надземнай рэальнасьці ці істоты, каб атрымаць адказы на вечныя пытаньні.

– **патрэба духоўнага кіраўніцтва** паўстае ў сувязі з тым, што многія людзі зьвяртаюць увагу на важнасьць кантактаў з тымі, хто быў бы ў стане цьвёрда і харызматычна кіраваць у рэлігійных справах.

Аналізуючы прычыны зьяўленьня і прывабнасьці новых рэлігійных рухаў, становіцца зразумела, што няма ўніверсальнага сродку супраць негатыўнай дзейнасьці сектаў. Важнае ў супрацьстаяньні новым рэлігійным рухам — гэта дакладнае ўсьведамленьне розьніцы паміж Царквой і сектамі.

Секта дзейнічае як асобная група. Царква ж — выхавальніца ўсіх народаў. Выкарыстоўваючы групавы ціск, выклікаючы пачуцьцё віны, у секце зьмяняецца асоба. У Царкве будуецца давер і супольнасьць у Духу Сьвятым. Царква існуе, каб зьмяняць сьвет, а секта часта выступае супраць сьвету, ізалюецца ад яго. Праз сьвятарства Царква перадае надпрыродную ласку Божую, а секта канцэнтруецца на моцы свайго лідара. Царква тлумачыць разуменьне веры, абапіраючыся на Біблію і Традыцыю, у той час, як у заснавальнікаў сектаў відавочны суб'ектывізм і самавольства лідара.

*Разьвіцьцё сектаў выяўляе недахопы і ў самой Царкве.* Ватыканскі дакумент зьвяртае ўвагу на важнасьць наступных бакоў рэлігійнага жыцьця парафіі:

– **пачуцьцё парафіяльнай супольнасьці**, якая ў розных сваіх праявах (малітоўная суполка, біблійная, маладзёвая і інш.) магла б задаволіць аўтэнтычныя патрэбы чалавека;

– **паглыбленьне тэалагічна-біблійных ведаў** вернікаў, а найперш духавенства;

– **падтрыманьне культурнай адметнасьці немалаважнае**, бо кожны народ у свой спосаб цярпіць, інакш працуе, мае свае спадзяваньні і страхі, а таму задача ў тым, каб зрабіць адухоўленымі гэтыя вымярэньні існаваньня людзей, якія жывуць у гэтым народзе і культуры;

– **новая роля сьвятара**: быць братам, настаўнікам, суцяшальнікам і чалавекам малітвы, што павінна служыць еднасьці парафіі.

Падводзячы высновы, можна адзначыць, што для эфектыўнага супрацьстаяньня сектам патрэбна руплівая душпастырская праца сьвятароў, актыўная апостальская дзейнасьць вернікаў пры ўсьведамленьні сябе ў еднасьці са Сьвятой Паўсюднай і Апостальскай Царквой.

**Аляксей ФІЛІПЕНКА**

# КАТЭХЕТЫЧНЫЯ КУРСЫ ДЛЯ ВЕРНІКАЎ

***З лістапада мінулага году ў парафіі Маці Божай Жыровіцкай, што ў Івацэвічах, распачаліся катэхетычна-літургічныя курсы. Заняткі праходзяць у парафіяльным цэнтры раз на паўтары месяцы ў суботу і нядзелю. Ужо адбылося тры спатканьні.***

Курсы разьлічаны на ўсіх, хто прагне атрымаць больш грунтоўную рэлігійную адукацыю ў параўнаньні са звычайнай катэхізацыяй у парафіі. Таму на сёньня імі зацікавіліся грэка-католікі самага рознага ўзросту – ад вучняў выпускных класаў да пенсіянераў. Ёсьць сярод іх таксама й вернікі з іншых парафіяў БГКЦ. Лекцыі праводзяць маладыя сьпецыялісты, якія ўжо пасьпелі зьявіцца ў нашай Царкве. Гэта студэнты і выпускнікі багаслоўскіх вышэйшых навучальных установаў Украіны, Польшчы, Расеі.

Сярод прадметаў, якія вывучаюць удзельнікі катэхетычных курсаў, значную цікавасьць выклікала хрысьціянская этыка і, найперш, семінарскія заняткі па гэтым прадмеце, на якіх удзельнікі маглі паставіць сябе на месца прадстаўнікоў розных філасофска-этычных школ і суаднесьці іх вучэньне з хрысьціянствам. Заняткі па літургіцы дазваляюць глыбей пазнаць богаслужбовае жыцьцё нашай Усходняй Царквы. У бліжэйшы час плануецца распачаць таксама вывучэньне Сьвятога Пісаньня – Старога й Новага Запавету.

Варта адзначыць, што да арганізацыі курсаў далучыліся ўсе вернікі івацэвіцкай парафіі, нават тыя, што не слухаюць лекцыяў. Дзякуючы іх ахвярнасьці арганізавана харчаваньне ўдзельнікаў курсаў, што дазваляе вытрымаць досыць напружаны двухдзённы графік заняткаў.

Вось што гавораць пра курсы іх удзельнікі:

***Айцец Андрэй, кіраўнік:***

*Вернікі Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы сёньня практычна ня маюць магчымасьці атрымаць тэалагічную адукацыю. Тыя, хто навучаецца ў тэалагічных навучальных установах у Беларусі ці за мяжою,– гэта хутчэй выключэньні. А патрэба ў такой адукацыі адчувальная. Разам з тым, тыя, хто ўжо мае гэтую адукацыю, прагнуць ёй падзяліцца. Вось так і паўстала ідэя гэтых курсаў.*

***Андрэй, выкладчык:***

*Курсы для мяне ў першую чаргу — гэта пошук тоеснасьці нашай Царквы. Разам мы шукаем нашыя карані, а таксама разважаем пра месца Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы ў сучасным грамадзтве. Таксама курсы – гэта магчымасьць лепш адчуць нашу супольнасьць, бо час, які мы праводзім разам, дае магчымасьць абмяняцца думкамі, завязаць сяброўства. Асабіста для мяне нават не прынцыпова – быць на курсах у якасьці выкладчыка ці ў якасьці ўдзельніка, і таму я заўсёды з задавальненьнем прыязджаю, нават калі сам ня маю выкладаў.*

***Зьміцер, удзельнік:***

*Для мяне, як для верніка івацэвіцкай парафіі, гэта вялікая радасьць пабачыць моладзь з іншых мясьцінаў у нашай парафіі, маліцца разам з імі. Гэтыя курсы даюць цудоўную магчымасьць глыбей пазнаць сутнасьць хрысьціянства, спасьцігаючы ў навуцы Божую мудрасьць і любоў.*

***Валянцін, удзельнік:***

*Для мяне курсы, перш за ўсё,– гэта пазнаньне нечага новага. Гэта сустрэча з новымі людзьмі, гэта новыя знаёмыя. Дзякуючы курсам, я стаў яшчэ бліжэй да Бога. Курсы – гэта магчымасьць рэалізаваць сябе, быць больш карысным для людзей, што побач з табою. Тыя, незнаёмыя ў першы дзень людзі, сталі для мяне ўжо роднымі. Я не магу ўявіць сваё жыцьцё без выкладчыкаў і аднакурснікаў. Я вельмі ўдзячны ўсім, хто спрыяе правядзеньню гэтых курсаў. Асаблівую ўдзячнасьць хачу выказаць івацэвіцкім парафіянам за тое, што вельмі гасьцінна прынялі нас.*

***Вераніка, удзельніца:***

*Курсы сталі для мяне магчымасьцю дапоўніць свае веды пра Царкву і тыя праўды, якімі яна жыве. Я трапіла ў царкву ў падлеткавым узросьце, і на той момант сістэматычныя веды мне не былі патрэбныя. Мяне больш прываблівала магчымасьць дакрануцца да жыцьця іншых людзей ды іх вопыту жыцьця з Богам праз размовы, супольныя малітвы, сьпевы, паездкі і пілігрымкі. З цягам часу захацелася ня толькі "спажываць" тое, што мне дае Царква і парафія, але і штосьці аддаваць. Вось тут я і зразумела, што пэўныя веды мне проста неабходныя. Трэба разьбірацца і ў царкоўным праве, і ў літургіцы, і ў этыцы, і шмат у чым яшчэ, каб рэагаваць на тое, што адбываецца ў Царкве і ў сьвеце не з пазіцыі "Як скажуць – так і зраблю, думаць мне неабавязкова", а з разуменьнем уласнай адказнасьці. Безумоўна, веды можна набыць і праз кнігі. Але, пагадзіцеся, на шмат лепшы спосаб вучобы – гэта магчымасьць быць разам з дасьціпнымі студэнтамі і слухаць разумнага выкладчыка.*




## Гумар айцоў пустыні

- *Адзін айцец сказаў старцу:*
*– Ведаеш, я сем гадоў маўчаў.*
*– А я, – адказаў старац, – пасьціў сто дзён.*
*– Гэта немагчыма! – кажа айцец.*
*– Але чаму, брат, я пагадзіўся, што ты сем гадоў маўчаў, а ты ня можаш пагадзіцца з тым, што я сто дзён пасьціў? – адказаў старац.*

- *Адзін брат кажа старцу:*
*– Ойча, я чуў, што брат, з якім ты жыў, памёр. Ці мог бы я заняць ягонае месца?*
*– Так, можаш. Але мне здаецца, што ты вышэйшы за гэтага брата і, напэўна, ня зьмесьцішся ў ягонай дамавіне.*

- *Адзін малады чалавек раіўся з манахам-пустэльнікам:*
*– Ойча, ведаю, што ўжо цэлы год жывеш у пустыні. За гэты час ужо сем разоў была навала саранчы. Яна залазіць усюды, нават у ежу. Як ты з гэтым даеш сабе рады?*
*– Ведаеш, калі саранча першы раз патрапіла ў маю талерку супу, я яе выліў. Пасьля другога разу я дастаў саранчу з талеркі і зьеў суп. А ў трэці раз, калі саранча хацела вылезці з талеркі, я запіхнуў яе назад…*

**Над выпускам працавалі:**
Сяргей Гілейша,
Аляксей Філіпенка,
бр. Апалінар (Нікалаеў),
бр. Зьміцер (Чарнель)



**ПІШЫЦЕ НАМ:**
**razam@biz.by**

«RAZAM»
*W.S.D., ul.Kościelna 10,*
*17-312, Drohiczyn, POLSKA*

д-р Вячаслаў СТЭЦКО

# Паверыць надзеі

(Рым 4, 18)

## 1. НАДЗЕЯ Ў ЖЫЦЬЦІ ЧАЛАВЕКА

Будучыня зьяўляецца той рэчаіснасьцю ў жыцьці чалавека, на якой часта канцэнтруецца ўся яго ўвага. Падчас працы, у вольны час чалавек нястомна разважае пра будучыню, спрабуе яе планаваць, выказвае свой неспакой адносна яе, перасьцярогі і спадзяваньні. Ён плануе сваю дзейнасьць так, каб найбольш забясьпечыць сабе жыцьцёвы камфорт у будучыні, камфорт матэрыяльны ў такой жа ступені, як і псіхічны, маральны ці духоўны. Толькі чалавек мысьліць катэгорыямі будучыні. Увесь жывёльны сьвет не перажывае таго, што мусіць адбыцца, такім чынам, як перажывае гэта чалавек. Толькі чалавек, як вольная асоба, у поўні здольны да погляду на рэчы без ніякай перашкоды і рэалістычна ведае, што будучыня не дае выключыць сябе з працэсаў думаньня, а праз гэта пагаджаецца з думкай пра надыход чагосьці невядомага, што нібыта закрыта ад чалавека.

З іншага боку, для чалавечай істоты недастаткова жыць толькі сёньняшнім днём. Зацікаўленасьць чалавека сваёй будучыняй мае карані ў характэрным для чалавека клопаце пра будучыню, схільнасьці да лепшага ўпарадкаваньня сваёй будучыні, стварэньня для сябе такіх умоваў жыцьця, якія хоць у нейкай ступені дазволілі б альбо адсунуць думкі пра будучыню на далёкі план, альбо стварыць для сябе ўжо тут, у сучаснасьці, пачуцьцё хоць крыху забясьпечанай будучыні. Мы, як людзі, сваімі планамі пераносімся ў будучыню, выкарыстоўваем усе даступныя веды пра сьвет і яго правілы, каб здолець хаця б у нейкай невялікай ступені запланаваць будучыню, выкарыстоўваем усе даступныя веды, каб прадбачыць ход падзеяў. На жаль, сутнасьць будучыні ў немагчымасьці прадбачыць тое, што новае, што пакуль яшчэ схаванае ад чалавека, што можа прывесьці яго да расчараваньняў альбо радасьці.

Такі асаблівы клопат чалавека пра тое, што мае надысьці, разам з фактам зацікаўленасьці праблемай будучыні, раскрывае яго сьпецыфіку: ён ня толькі зьяўляецца прадметам спажываньня, не зьяўляецца на ўзор жывёлаў пасіўным спажыўцом зямных дабротаў, але перад усім ёсьць Божым стварэньнем, стварэньнем, якое мае выразна акрэсьленую мэту і пакліканьне тут, на зямлі, асобай, створанай на вобраз і падабенства свайго Творцы.

З факту стварэньня чалавека Богам вынікае, сярод іншага, што гэта ёсьць асоба, якая ўжо з моманту стварэньня была накіравана на будучыню. Ён мусіць валодаць зямлёю, мусіць панаваць у гэтым сьвеце, мусіць правільна будаваць свае адносіны з Творцам, бо гэта забясьпечыць яму будучыню, багатую на Божае блаславенства і на абяцанае Богам. Гэтая фундаментальная праўда, якая была дадзена чалавеку Творцам у момант яго стварэньня і якая паказвае чалавека як стварэньне, што жыве ў сучаснасьці, але таксама і разважае пра будучыню, нястомна суправаджае чалавечую асобу ў гісторыі яе дзеяў. Будучыня становіцца тым элементам, якому ў вялікай ступені падпарадкавана нашая сучаснасьць, нашыя штодзённыя ўчынкі і дзеяньні.

І да гэтага новага, гэтага невядомага, незнаёмага зьвяртаецца надзея чалавека. Паколькі прадбачыць будучае практычна немагчыма, надзея становіцца той рэчаіснасьцю, якая нейкім чынам дапамагае чалавеку ў яго штодзённым жыцьці ў канфрантацыі з будучым. Асабліва бачнай становіцца яна ў сітуацыях безвыходных, калі нічога не застаецца, акрамя надзеі.

Менавіта думка пра будучыню спараджае ў вялікай колькасьці людзей у гэтым сьвеце, таксама і сярод хрысьціянаў, шмат страхаў і перасьцярогаў. Якая будучыня мяне чакае? Якая будучыня чакае маіх дзяцей? Сустракаем тут, у сучаснасьці, столькі цяжкасьцяў, перажываем няспынна стрэсы, недахоп сродкаў да жыцьця, адсутнасьць стабільнасьці ня толькі матэрыяльнай, але й палітычнай, пагрозы з боку прыроды, пагрозу розных інфекцыяў, эпідэміяў і нават магчымасьць пандэміі, розныя хваробы. Ці можа надысьці лепшая будучыня ўжо ў хуткім часе, калі ў жыцьці цяперашнім сустракаем так шмат цярпеньняў? "Мы ня маем ужо нават надзеі!"– кажуць некаторыя. Падобныя пытаньні й сьцьверджаньні можна пачуць часта і ў нашым атачэньні, сярод блізкіх ды знаёмых. І ў гэты момант мы дакранаемся да рэчы, як здаецца, фундаментальнай: перашкода, якая закранае кожнага чалавека, робіць яго скептычным да надзеі – факт чалавечай абмежаванасьці, вычарпальнасьці, факт сьмерці, у якой, як здаецца часта тым, хто жыве сёньня, сканчаецца ўсё іх жыцьцё, губляецца сэнс усяго таго, што дагэтуль рабілі і чаго дасягнулі на зямлі. Такая перспектыва і сьвядомасьць сьмерці ў агульным разуменьні часта робіць надзею вар'яцтвам: хутка і так усё скончыцца разам са сьмерцю, дзе тады ў гэтым усім ёсьць надзея? Такім чынам надзея становіцца "вылеленаю" з жыцьця – належыць цешыцца з сучаснасьці. Можна сустрэць перакананьне, што сапраўднае жыцьцё і сапраўднае мастацтва жыцьця – гэта больш ці менш камфортнае перажываньне сучаснасьці.

## 2.ХРЫСТОС – НАША НАДЗЕЯ

На жаль, такім думкам пра надзею падуладны таксама хрысьціяне. Яны жывуць так, бо не да канца ведаюць, што надзея, якую прапануе сьвет, адрозьніваецца ад надзеі рэлігійнай, надзеі, якую прыносіць Хрыстос. Надзея, што функцыянуе ў сьвеце, пазбаўлена панадчасавага вымярэньня, яна абмяжоўвае чалавека толькі яго дачасным жыцьцём і зьвязана пераважна з матэрыяльнай ды эмацыянальнай сферамі. Яна ня кажа пра рэлігію, пра Бога, пра Хрыста, а калі нават кажа, то трактуе Бога толькі інструментальна, як крыніцу паляпшэньня жыцьця, сітуацыі, у якой апынуўся чалавек, без ніякай рэфлексіі над тым, чаму сталася так, а ня іначай. Вядома, шырока распаўсюджанае разуменьне надзеі ў сьвеце не зьяўляецца дрэнным, тым ня менш яно не перадае ў поўні яе хрысьціянскага значэньня.

У хрысьціянскай перспектыве надзея зьяўляецца падставай для будучыні, падставай для ўпэўненасьці ў тым, што абяцаньні Божыя, дадзеныя праз Хрыста, Сына Божага, споўняцца. Гэта падстава для веры ў тое, што зло, якое дзейнічае ў сьвеце, праміне, што пераможа дабро, а чалавек, які сваё жыцьцё даверыў Хрысту, будзе цешыцца з вечнага шчасьця разам са сваім Госпадам і Збаўцам.

Каб больш дакладна зразумець хрысьціянскае вымярэньне вызначэньня надзеі, належыць зьвярнуцца да Сьвятога Пісаньня і ўбачыць яе біблійнае значэньне.

У Старым Запавеце ёсьць шмат словаў, што маюць значэньне надзеі. Характэрным для старазапаветнай думкі зьяўляецца тое, што надзея – ня толькі слова, якое вымаўляецца ў розных акалічнасьцях і розных кантэкстах, але перадусім гэта "чын", які праяўляецца ў паставе. Надзея можа быць аднолькава назоўнікам і дзеясловам – акт надзеі, прадмет надзеі, якім можа быць асоба альбо рэч. Сярод габрэйскіх словаў, якія зьяўляюцца адпаведнікамі слову *"надзея"*, можна знайсьці такія, як: *"віць"*, *"вяроўка"*, *"канат"* – яны характарызуюць чалавека надзеі як таго, хто моцна трымаецца вяроўкі, але таксама ёсьць адпаведнікі *"чакаць"*, *"чаканьне"*, *"чуваць"* – як стан жыцьця ў надзеі. Некаторыя габрэйскія тэрміны, якія таксама можна тлумачыць як "надзея", азначаюць ідэю прытулку, ускладаньня надзеі. Чалавек надзеі – гэта той, які мае ў сабе пачуцьцё надзеі ў Богу.

У аснове біблійнага разуменьня надзеі ляжаць таксама абяцаньні Божыя, дадзеныя чалавеку. Надзея абапіраецца на перакананьне, што Бог забясьпечыць чалавеку ўсё неабходнае для жыцьця, што Ён штодня клапоціцца пра чалавека; што абараняе ад небясьпекі; што забясьпечыць справядлівасьць: добрыя атрымаюць узнагароду, а дрэнныя людзі будуць пакараныя; што ніколі не пакіне свайго народу, які будзе жыць у міры і любові з іншымі.

Якія высновы можам зрабіць з аналізу габрэйскіх значэньняў слова "надзея"? Надзея – гэта ня толькі выказанае слова, гэта прастора, у якую павінен увайсьці чалавек веры; гэта штодзённы стан – моцна схапіцца за вяроўку, якую дае Бог; гэта – упэўненасьць, што, калі мы верныя Яму, Ён забясьпечыць нам спакой, радасьць, любоў і надзейную будучыню.

Значна паглыбляе разуменьне надзеі Новы Запавет. Наша надзея зьвязваецца з Ісусам Хрыстом і Яго справай збаўленьня, якое Ён для нас учыніў: "Дык вось, апраўданыя вераю, мы маем мір з Богам праз Госпада нашага Ісуса Хрыста, праз Якога вераю маем доступ да той ласкі, у якой стаім, ды хвалімся надзеяю славы Божай. І ня толькі гэтым, але хвалімся таксама ў цярпеньні, ведаючы, што цярпеньні выпрацоўваюць вытрываласьць, ад вытрываласьці – дасьведчанасьць, ад дасьведчанасьці – надзея. А надзея не пасароміць, бо любоў Божая вылілася ў сэрцы нашыя праз Духа Сьвятога, Які нам дадзены" *(Рым 5,1-5)*.

Працяг на с.15 ⇨

# Украінская ГАЛГОФА

## 60 гадоў таму адбыўся Львоўскі псеўдасабор, на якім было заяўлена пра ліквідацыю Грэка-Каталіцкай Царквы

У 1794-1795-ым, 1839-ым і 1875 гадах Уніяцкая Царква была ліквідавана на тэрыторыі Беларусі, Украіны і Польшчы, якія апынуліся пад панаваньнем дынастыі Раманавых. Засталася яна толькі на тэрыторыі Заходняй Украіны – Галічыне, што апынулася пад аўстрыйскай уладай. З уключэньнем у 1939 г. Заходняй Украіны ў склад СССР савецкая ўлада паўтарыла царскі сцэнар зьнішчэньня Уніі, дапоўніўшы дзяржаўна-палітычнае ўзьяднаньне "ўзьяднаньнем" рэлігійным.

Наступ на Грэка-Каталіцкую Царкву (ГКЦ) на Украіне партыйныя і дзяржаўныя савецкія структуры пачалі зімой 1944/45 году, выкарыстаўшы ў сваіх мэтах абяскроўленую ганеньнямі 1920–30-х гг. Расейскую Праваслаўную Царкву (РПЦ). Зьнішчаючы адну няўгодную ёй Царкву, савецкая ўлада яшчэ й перасварыла хрысьціянаў паміж сабой. Была разгорнутая кампанія шальмаваньня ГКЦ, якая суправаджалася выкрыцьцём папства як цэнтру антысавецкага шпіёнства і агітацыі. 11 красавіка 1945 году ў СССР былі арыштаваны ўсе ярархі ГКЦ, якія "не зразумелі новай гістарычнай абстаноўкі" і перашкаджалі "ўзьяднаньню". Пазьней, абвінавачаныя ў супрацоўніцтве з фашысцкімі акупантамі, яны былі замучаны ў камерах катаваньня НКВД або прыгавораны да шматгадовага турэмнага зьняволеньня. Сам мітрапаліт Ёсіф Сьліпы адбыў 18 гадоў у турме і высылцы ў Сібіры.

1 ліпеня 1945 году 300 найбольш адважных сьвятароў Украіны выслалі пратэст да Молатава, за што былі арыштаваныя, а іх цэрквы зачыненыя. 23 сьнежня 1945 году, з нагоды 350-годдзя заключэньня Берасьцейскай царкоўнай уніі, папа рымскі Пій XII выказаў моцную занепакоенасьць становішчам грэка-католікаў у СССР. Ёсьць зьвесткі, што пачынаючы з 1945 году, былі пасаджаны ў турмы і высланы ў Сібір каля 400 чалавек духавенства, 800 манахаў і 1200000 вернікаў Заходняй Украіны.

Арышты ярархаў ГКЦ для "Ініцыятыўнай групы" на чале з Гаўрылам Касьцельнікам, якая дзейнічала ў рэчышчы палітыкі савецкай улады і таму была ёю прызнаная ў якасьці паўнамоцнага органу ГКЦ, адкрылі магчымасьць падрыхтаваць скасаваньне Уніі на Украіне і падпарадкаваць гэтую Царкву Маскоўскаму патрыярхату. Значная колькасьць шараговых сьвятароў пад ціскам, пагрозамі, ідэалагічнай апрацоўкай вымушаны былі даць на гэта згоду.

Арганізаваны па ўказаньні Сталіна 8-10 сакавіка 1946 году Львоўскі царкоўны сабор пастанавіў ануляваць Берасьцейскую Унію, разарваць сувязі з Рымам і ўвайсьці ў склад Расейскай Праваслаўнай Царквы. У распараджэньне РПЦ было перададзена тады амаль 3000 парафіяў. Прыкладна трэцяя частка духавенства прыняла праваслаўе, недзе 15 % падалося ў эміграцыю. Было разагнана манаства, разбураны структуры ГКЦ, а сама яна была абвешчана савецкім урадам па-за законам.

На тых, хто не прызнаў саборныя рашэньні, абрынуліся рэпрэсіі. Палова духавенства была звольнена з працы, кінута ў турмы, выслана ў Сібір. Прыкладна 200 сьвятароў перайшлі на нелегальны спосаб дзейнасьці. Большасьць украінскай інтэлігенцыі салідарызавалася з катакомбнай Царквой. Грамадзтву, аднак, была пададзена версія пра самаліквідацыю ГКЦ.

* * *

**60-годдзю Львоўскага сабора – гэтай значнай, але сумнай і трагічнай падзеі, арганізатары якой намерваліся павярнуць кола гісторыі, была прысьвечана Міжнародная навуковая канферэнцыя "Насільле ўлады супраць свабоды сумленьня: рэпрэсіўная палітыка Савецкай дзяржавы супраць хрысьціянскіх Цэркваў і вернікаў (ідэйныя асновы, механізм рэалізацыі, гістарычныя наступствы)", якая прайшла 3-4 сакавіка 2006 году ў Кіеве. Арганізавалі канферэнцыю Нацыянальны Універсітэт "Кіева-Магілянская Акадэмія" (Кіеў) і Украінскі Каталіцкі Унівэрсытэт (Львоў).**

Удзельнікамі канферэнцыі сталі вядомыя навукоўцы з чатырох краінаў: Украіны, Беларусі, Расеі і Польшчы. Сярод іх — гісторыкі, багасловы, філосафы і палітолагі, а таксама прадстаўнікі Цэркваў, палітыкі і дзяржаўныя службоўцы. Грэка-Каталіцкую Царкву прадстаўляла высокашаноўнае духавенства: Першаярарх УГКЦ Любамір Гузар, Апостальскі Візітатар для грэка-католікаў Беларусі архімандрыт Сяргей Гаек. У канферэнцыі ўдзельнічаў таксама архіяпіскап Харкаўскі Ігар Ісачэнка ад Украінскай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы.

Усіх удзельнікаў гасьцінна прымала знакамітая Кіева-Магілянская Акадэмія, заснавальнік якой праваслаўны Кіеўскі мітрапаліт Пётр Магіла, паводле расейскага царкоўнага гісторыка А.Карташава, "марыў пра ўзвышэньне Кіеўскага мітрапалічага пасаду да годнасьці патрыяршаства ў супрацьвагу Маскве, якая толькі што гэтага дасягнула" (Карташев А. Очерки по истории русской церкви. Т.2. М., 1991. С. 282). Арганізацыйны камітэт узначаліла адна з найбольш аўтарытэтных украінскіх гісторыкаў прафесар Натальля Якавенка.

Галоўнай задачай канферэнцыі было высьвятленьне гістарычнай абумоўленасьці царкоўна-дзяржаўных узаемаадносінаў у мінулым, што абярнуліся брутальнай зьнявагай свабоды сумленьня і жорсткім перасьледам за веру, трагічныя наступствы якіх адчуваюцца і сёньня.

На пяці сэсіях канферэнцыі на працягу двух дзён было заслухана 24 даклады. Тэматыка і праграма кожнай з сэсіяў былі тонка прадуманы, у чым трэба аддаць належнае дырэктару Інстытуту гісторыі УКУ Алегу Турыю. На першай сэсіі разглядаліся рэлігійныя аспекты дзяржаўнай палітыкі царскай Расеі ва Украіне, на другой – гісторыя ліквідацыі Уніі на украінска-беларускіх землях пасьля падзелаў Рэчы Паспалітай. Трэцяя сэсія была прысьвечана абмеркаваньню пытаньня пра атэістычную ідэалогію й барацьбу таталітарнага рэжыму з рэлігіяй у 1917-1939 гг. Савецкая рэлігійная палітыка на Украіне падчас Другой сусьветнай вайны – праблематыка яшчэ адной сэсіі. На пятай сэсіі абмяркоўваліся абставіны дзяржаўнай "ліквідацыі" Уніі ў Галічыне і Закарпацьці ў 1946-1949 гг. Пасьля кожнай з сэсіяў адбывалася дыскусія, якую "заводзілі", так сказаць, сьпецыяльна замоўленыя навуковыя "правакатары" і падхоплівалі астатнія. Не аднойчы актыўных дыскутантаў было цяжка ўтаймаваць – настолькі актуальная навуковая і грамадзкая праблематыка абмяркоўвалася.

Першае ж выступленьне – яго рабіла дасьледчыца Алена Белякова з Масквы – літаральна ашаламіла. Досьвед барацьбы з уніятамі, аказваецца, быў адпрацаваны імперскай уладай на стараабрадніках, якіх, як і ўніятаў з канца XVIII ст., разглядалі народнай верай. Інкарпараваная ў дзяржаўную сістэму Расейскай імперыі Праваслаўная Царква выконвала ўскладзеныя на яе задачы барацьбы з заканадаўча непрызнанымі Цэрквамі. Асноўная роля ў ганеньнях на ўніятаў з 1827 г. належала чыноўнікам Міністэрства ўнутраных спраў, якія з рэлігіяй нічога агульнага ня мелі. У Пецярбургу стваралі імідж мірнага добраахвотнага ўзьяднаньня, а ў гэты час турмы Украіны і Беларусі напаўняліся арыштантамі. Народную стойкасьць у абароне веры падтрымлівала інтэлігенцыя. Вядомы юрыст А.Ф.Коні назваў гэта "административным миражом". У такі ж адміністрацыйны міраж пераўтварылася і савецкая свабода сумленьня, за якой стаяў крывавы перасьлед.

"Што дае Расеі абарона правоў праваслаўных у Рэчы Паспалітай?"– такое пытаньне нібыта прагучала на каранацыі Кацярыны II у 1862 годзе. "Адкінуць мяжу імперыі на 600 кіламетраў на захад,"– нібыта, быў адказ. Так пачаў сваё выступленьне вядомы польскі вучоны Мар'ян Радван. Ударыць там, дзе пазыцыі Рыма-Каталіцкай Царквы былі найбольш моцныя,– так вызначыў ён тактыку царызму на далучаных тэрыторыях. Такім месцам была Віленская япархія. Пасьля падаўленьня кожнага чарговага паўстаньня Рыма-Каталіцкай Царкве наносіўся новы ўдар: 1832, 1863 г. Толькі ў 1863-1870 гг. былі зачынены 202 касьцёлы. Вучоны ўстанавіў імёны 800 каталіцкіх сьвятароў, тады ж высланых з заходніх губерняў у Сібір. Другой лініяй урадавай палітыкі была паралізацыя вышэйшай ярархіі, куды прызначалі старых і недзеяздольных людзей.

"Падзеньне Калоса: культурныя і палітычныя абставіны "хуткай" ліквідацыі Уніі на Падольлі ў канцы XVIII ст." – так называўся рэферат дасьледчыка з Львова Ігара Скочыляса. Дакладчык зрабіў адметны акцэнт на тэарэтыка-мэтадалагічныя падыходы да асьвятленьня праблемы, якую заклікаў глядзець вачыма людзей таго часу, а не займацца мадэрнізацыяй.

Ад Беларусі з дакладам выступаў аўтар гэтых радкоў, якая расказала пра прычыны, механізмы ліквідацыі Уніяцкай Царквы ў Беларусі ў 1780–1839 гг. і рэакцыю на гэта грамадства

(Фрагмент гэтага дакладу пад назвай "За кулісамі Полацкага царкоўнага сабору (восень 1838 – зіма 1839 г.)" будзе прапанаваны чытачам "Царквы" ў наступным нумары – *Рэд.*).

Савецкая ўлада, як адзначалася на канферэнцыі, узялася дзейнічаць на тым рэлігійным полі, дзе ўжо папрацаваў царызм. Механізмы сваёй рэпрэсіўнай палітыкі яна таксама ўспадкавала ад царскага рэжыму і ў 20-30-я гады XX ст. апрабавала іх на ўсіх без выключэньня Цэрквах і іх верніках: на праваслаўных і каталіках, пратэстантах і прадстаўніках іншых царкоўна-рэлігійных супольнасьцяў. Непасрэдным вынікам той дзяржаўнай барацьбы з рэлігіяй сталі зруйнаваныя, зачыненыя, апаганеныя храмы; расстраляныя, зьняволеныя, дэпартаваныя ў сібірскія канцлагеры сьвятары й вернікі. Некалькі пакаленьняў людзей пазбавілі свабоды веравызнаньня, што прывяло да згасаньня векавых традыцыяў веры, пашырэньня бездухоўнасьці і дэмаралізацыі грамадзтва.

Новадалучаныя да СССР у 1939 годзе тэрыторыі, як падкрэсьліў у сваім дакладзе дасьледчык Аляксандар Лысенка з Кіева, характарызаваліся высокай ступеньню рэлігійнасьці і нацыянальнай сьвядомасьці насельніцтва. Крэмль адчуваў страх перад такім моцным праціўнікам, якім была Царква. У сталінскіх планах ператварэньня РПЦ у кіраваную дзяржаўную Царкву Грэка-Каталіцкая Царква тым больш была асуджана на зьнішчэньне. Высокі маральны аўтарытэт ГКЦ не дазволіў уладзе хутка яе расхістаць. Існавала моцная пагроза сталага масавага супраціву духавенства і вернікаў. Тады быў выкарыстаны "метад Аляксандра Македонскага".

Чаму менавіта УГКЦ непазьбежна мусіла стаць ахвярай камуністычнай палітыкі? Сярод прычынаў называліся наступныя: для ўкраінцаў гэта была нацыянальная па духу Царква, да таго ж яна была падпарадкавана не Маскве, а Ватыкану, яна зьяўлялася альтэрнатывай таталітарнай ідэалогіі і знаходзілася ў апазіцыі бязбожнаму рэжыму.

На канферэнцыі ў Кіеве кожны наступны даклад здаваўся яшчэ цікавейшым за папярэдні. Асабліва ўразіла выступленьне дасьледчыка з Пецярбургу (аўтара больш за два дзясяткі кніг) Міхаіла Шкароўскага "Ганеньні на Расейскую Праваслаўную Царкву і Украінскую Грэка-Каталіцкую Царкву ў кантэксьце савецкай рэлігійнай палітыкі другой паловы 40-х гадоў XX ст.". Адліга ў рэлігійнай палітыцы Сталіна, якая наступіла з сярэдзіны 1943 году, закранула ня ўсе Цэрквы. Пасьля значных перамог у вайне ён выношваў план зацьвярджэньня першынства Маскоўскага патрыярхату ў праваслаўным сьвеце, стварэньня "маскоўскага Ватыкану". Выкарыстаньне ў зьнешнепалітычных планах Расейскай Праваслаўнай Царквы нярэдка насіла авантурны характар, да таго ж з канца 1940-х гадоў "благоволение" Сталіна да Маскоўскага Патрыярхату закончылася. Ад палітыкі асьцярожнага прызнаньня РПЦ ён пераходзіць да яе выцясненьня з усіх сфераў жыцьця. Зноў пачаліся рэпрэсіі, новы віток якіх прыйшоўся на хрушчоўскі час.

Далей на канферэнцыі ўсебакова разглядаліся абставіны ліквідацыі Грэка-Каталіцкай Царквы ў Галічыне і Закарпацьці ў 1946–1949 гг.: савецкая дзяржаўная палітыка; роля Сталіна і Хрушчова, які тады быў Старшыня Савету народных камісараў Украінскай ССР; дзейнасьць НКВД; мадэлі паводзінаў духавенства перад выклікам дзяржаўнага гвалту; нечаканыя наступствы "ўзьяднаньня"; працэс руйнаваньня царкоўных структураў. Была зьвернутая ўвага на неабходнасьць урэшце адкінуць гістарычныя фальсіфікацыі пра добраахвотнасьць "узьяднаньня" грэка-католікаў і "гераізм" ініцыятыўнай групы Г.Касьцельніка.

На круглым стале "Досьвед гісторыі і праблемы ды перспектывы дзяржаўна-царкоўных адносінаў ва Украіне", які завяршаў канферэнцыю, праблема абмяркоўвалася з пагляду сучаснасьці: з дзяржаўна-палітычнага, юрыдычна-прававолага пункту гледжаньня, зыходзячы з грамадзкай і царкоўнай перспектывы.

> ***"Я павінен падкрэсьліць, што толькі вельмі невялікі адсотак сярод нашых сьвятароў, што далучыліся да "ініцыятыўнай групы", зрабілі гэта паводле пераканаць. Такіх сьвятароў няма, пэўна, і 50. Іншыя зрабілі гэта таму, што "няма другога выйсьця" з узьніклай сітуацыі. Гэта, вядома, яшчэ не азначае, што ўсе гэтыя сьвятары зьяўляюцца на 100% папістамі (прыхільнікамі папы). Але калі б не было ціску з боку дзяржавы, дык напэўна ў цяперашніх умовах нават і 50 сьвятароў не знайшлося б такіх, якія хацелі б "разбурыць" грэка-каталіцкую Царкву, каб перарабіць яе на праваслаўную... Праваслаўе, якое ў нас у такі кароткі тэрмін узьнікае, будзе... толькі зьнешняй лакіроўкай."***
>
> *З ліста старшыні Ініцыятыўнай групы Гаўрылы Касьцельніка ад 03.10.1945 на імя Патрыярха Алексія.*

Сьпецыяльна для канферэнцыі Львоўскі музей гісторыі рэлігіі прывёз выставу сваіх унікальных экспанатаў і дакументаў "Рэпрэсаваная Царква", якія расказвалі пра трагічны лёс адной з найбуйнейшых украінскіх Цэркваў – Грэка-Каталіцкай – у 40–80-ыя гады XX ст.

Каласальны новы фактычны матэрыял, грунтоўна інтэрпрэтаваны навукоўцамі, стаў укладам гэтай канферэнцыі ў еўрапейскую гістарычную навуку. Лавіна інфармацыі пра украінскую Галгофу сярэдзіны XX ст. абрынулася на галовы выступоўцаў і слухачоў. Для мяне – чалавека, які жыве гісторыяй і, здавалася б, "звыкся" з рознымі злачынствамі ў ёй, гэтая фактура аказалася вельмі "цяжкай". Да зыходу другога дня канферэнцыі яна нібыта прыціснула – ад яе стала цяжка ў галаве, цяжка ў душы, цела нібы адчувала тыя пакуты, што вынесьлі сьвятары і вернікі загнанай у падпольле Царквы.

Рана ўкраінскіх грэка-католікаў яшчэ баліць. Яна баліць і мне.

**Сьвятлана МАРОЗАВА,**
*доктар гістарычных навук,*
*прафесар Гарадзенскага дзяржаўнага ўніверсітэту імя Янкі Купалы*

# Паверыць надзеі

⇨ Заканчэньне са с.13

Вось жа надзея Божая мае свой падмурак у Хрысьце і ў славе Божай, якую ўжо тут, на зямлі, мы атрымалі, але якую ў поўні атрымаем у вечнасьці, будучы з Богам, з Ім і ў Ім. Усе нашыя цяжкасьці, зьвязаныя са штодзённым жыцьцём, нашыя "цярпеньні" – як матэрыяльныя, так і духоўныя – непараўнальныя з тым, што падрыхтавана для нас Богам. Надзея зьяўляецца той вяроўкаю, па якой мы караскаемся ўсё бліжэй да Бога, да Хрыста. Караскаемся штодня, бо, як хрысьціяне, ведаем, што Валадарства Божае здабываецца намаганьнямі. Гэтыя высілкі – нашыя штодзённыя праца і змаганьні, намаганьне – гэта таксама і навучаньне вытрывалысьці.

Ісус Хрыстос падаў нам вобраз сапраўднай надзеі. Яе апісаньне знаходзім у Евангельлях, Пасланьнях апосталаў, а таксама Апакаліпсісе. Гэта надзея новага сьвету, новага неба й новай зямлі, гэта надзея на перамогу над сьмерцю, над усялякай недасканаласьцю і вычарпальнасьцю; гэта надзея на ўваскрасеньне. "Усе будзем пераменены",– кажа апостал Павел *(1 Кар 15, 51)*. Уласьцівасьцю надзеі чалавека, які верыць, ёсьць надзея, што сягае па-за сьмерць: "тленнае гэтае мае апрануцца ў нятленнае, і сьмяротнае гэтае – апрануцца ў несьмяротнасьць" *(1 Кар 15, 53)*. Станецца гэта дзякуючы Уваскрасеньню Хрыстоваму.

І калі мы ўсьведамляем нашую сувязь з Хрыстом, Хрыстом Уваскрослым і Праслаўленым, можам быць упэўненыя, што мы, на ўзор Хрыста, дасягнем той рэчаіснасьці, якая аб'явілася ў Ісусе Хрысьце і да якой кіруецца туга ўсіх людзей на зямлі, вернікаў і нявернікаў, нават калі гэтая туга неўсьвядомленая і невыразна акрэсьленая альбо нават пазбаўлена рэлігійнага вымярэньня.

Слова Божае заахвочвае нас да пошуку сапраўднага сэнсу надзеі. Належыць перад усім паверыць у надзею, падобна да таго, як паверыў у яе Абрагам: "Ён, звыш надзеі, паверыў з надзеяй, праз што стаўся бацькам многіх народаў, згодна з сказаным: Такім будзе патомства тваё" *(Рым 4, 18)*. Калі ж надзея становіцца пустым словам, калі ўжо не зьяўляецца вяроўкаю, па якой можна караскацца і якая падтрымлівае чалавека, належыць зноў і зноў спрабаваць у яе паверыць, адшукаць яе сапраўдны сэнс; адшукаць надзею, якая дае супакой, радасьць і любоў. Такая надзея, што абапіраецца на абяцаньне Божае, не зважаючы на розныя цяжкасьці, перасьледы, паразы і расчараваньні ў гэтым жыцьці, ніколі ня зьнікне, бо з іншага боку моцна трымае і дапамагае чалавеку яго Творца. Гэта ўжо надзея, крыніца якой не чалавек, але Ўсемагутны Бог. І менавіта пра такую надзею кажа нам Сьвятое Пісаньне, такой надзеі, якая абапіраецца на Бога і Яго праўду, прагне ад нас Ісус Хрыстос, прагне ад нас Сам Бог.

Язэп ДРЭМЛЮГ

# Ці ўсе рэлігіі ад Бога?

*У нашым сьвеце існуе так шмат разнастайных рэлігійных вучэньняў, што нават сьпецыялісту часам бывае вельмі цяжка арыентавацца ў гэтых "нетрах духовасьці". Усеагульны рэлігійны плюралізм, калі не сказаць хаос, што стаўся сёньня "нормай жыцьця", пачаў распаўсюджвацца па Еўропе ня больш за сто гадоў таму. Аднак за гэты невялікі паводле гістарычных меркаў перыяд ён моцна зацьвердзіўся ў якасьці аднае з непрыкметных рысаў сучаснае цывілізацыі.*



## РЭЛІГІЯ ЎЧОРА І СЁНЬНЯ

Калісьці перад заходнім чалавекам адкрываліся толькі два альтэрнатыўныя шляхі: хрысьціянства або бязбожжа. Гэрэтычныя плыні і секты, якія іх распаўсюджвалі, вядома, былі заўсёды, але адносіны да іх у абсалютнае большасьці людзей былі рэзка негатыўныя. Да таго ж яны афіцыйна перасьледаваліся паводле закону і пры ўсіх высілках не маглі сабраць значнай колькасьці пасьлядоўнікаў. Такім чынам, само паняцьце рэлігіі заканамерна асацыявалася ў Еўропе выключна з хрысьціянствам і Царквою. Аднак пад уплывам ліберальных ідэяў на мяжы XIX–XX стагоддзяў узьнікла думка, што свабодная канкурэнцыя павінна існаваць і ў духовай сферы, а, значыць, неабходна ствараць роўныя ўмовы для місіянерскай дзейнасьці ў сьвеце, у тым ліку і ў Еўропе, усім існуючым рэлігіям. З таго часу, паводле словаў аднаго сучаснага рэлігіязнаўцы, у Еўропе, ЗША, а цяпер і ў былым СССР старанна фармуецца сітуацыя нейкага "духовага супермаркету", куды чалавек прыходзіць па "духовую ежу" і робіць свой выбар згодна з коштам на тавар і прыгажосьцю пакунку.

Стан сапраўды кардынальна адрозьніваецца ад таго, што быў стагоддзе таму. Гэта неабходна ўсьвядоміць і зрабіць правільныя высновы. Перадусім, трэба прызнаць, што Царква сёньня поўнасьцю страціла манаполію на духовую фармацыю чалавека. Цяпер за права на клопат пра чалавечыя душы неабходна змагацца, прычым у якасьці канкурэнтаў хрысьціянаў выступае аграмаднае мноства сілаў, пачынаючы ад амерыканскіх прапаведнікаў будызму і сканчаючы адкрытым сатанізмам. Вялікія і малыя рэлігіі і секты, падобна расьлінам трапічнага лесу, вычварна пераплятаючыся і вырастаючы адна з другое, намагаюцца прыцягнуць увагу людзей і навязаць ім сваё ўяўленьне пра боскае. Усходнія і заходнія, полі- і монатэістычныя – кожная з рэлігійных плыняў завярае, што менавіта яна дае найбольш поўныя адказы на спрадвечныя пытаньні чалавецтва пра Бога, сэнс быцьця і мэты чалавечага жыцьця.

## НЕ РАЗЬБІРАЕМСЯ АЛЬБО НЯ ХОЧАМ РАЗАБРАЦЦА?

У гэтай разнастайнасьці колераў і адценкаў чалавек часьцяком губляецца і не знаходзіць Таго, да Каго ён сапраўды імкнецца – Самога Бога. Многіх адпалохвае гэтая стракатасьць. "Хто ж з іх усё-ткі кажа праўду?"– думае чалавек і вырашае: "Напэўна ўсе хлусяць, а Бога проста няма!" Вось так сумна можа скончыцца шлях духовых пошукаў. Чалавек неўзабаве знойдзе агромістую масу справаў, якія адцягнуць яго ад думкі пра вечнае, і жыцьцё здасца прасьцейшым. Вядома, выбіраць, прымаць рашэньні, адшукваць праўду ў гэтых непраходных джунглях нашмат складаней, чым проста бегчы па жыцьці не спыняючыся, не задумваючыся і не зьвяртаючы ўвагі на тое, што акрамя паўсядзённых праблемаў існуе нешта яшчэ. А вядома ж, большасьць сёньня жыве менавіта так. На пытаньні пра рэлігію тысячы людзей адказваюць: "Для мяне гэта надта складана! Я ў гэтым не разьбіраюся". Небясьпека такога падыходу відавочная.

Пошук праўды зьяўляецца неабходным заданьнем кожнага чалавека, гэта закладзена ў самой ягонай прыродзе. Грэбуючы гэтай духовай працай, мы рызыкуем пераўтварыцца ў робатаў, якія запраграмаваныя на выкананьне азначаных аперацый і не падазраюць пра існаваньне сусьвету навокал. Чалавек павінен прыняць на сябе гэтую працу: прабрацца да праўды праз гушчар аблудаў і ўвайсьці да Бога праз "вузкія брамы". Доўг жа тых, хто ўжо адкрыў шлях да сапраўднага Бога – хрысьціянаў,– стаць праваднікамі для іншых людзей. Аднак, каб быць праваднікам, неабходна добра "арыентавацца на мясцовасьці". Трэба ўмець пераканаўча адказваць на пытаньні тых, хто ўсё ж такі адважыўся пачаць пошук праўдзівае веры сярод разнастайнага мноства рэлігійных сістэмаў. Значыць, калі чалавек рызыкнуў занурыцца ў сьвет рэлігійных ідэяў, перад ім непазьбежна ўзьнікне цэлы шэраг цалкам заканамерных пытаньняў: Няўжо ўсе гэтыя супярэчлівыя адно аднаму вучэньні кажуць пра аднаго й таго самага Бога? Якая ж навука праўдзівая? І як ставіцца да ўсяе гэтае разнастайнасьці? Паспрабуем адказаць на гэтыя пытаньні па парадку.

## УСЕ РЭЛІГІІ ВЯДУЦЬ ДА АДНАГО БОГА?

Перадусім, неабходна адразу адкінуць ідэю пра адначасовую праўдзівасьць усіх рэлігіяў. Гэтая ідэя, на жаль, мае ў сучасным сьвеце нямала прыхільнікаў. Нават сярод хрысьціянаў можна сустрэць думку, што ўсе рэлігіі абсалютна раўнацэнныя і проста разглядаюць Бога быццам бы з розных бакоў. Усе рэлігіі (а, паводле думкі некаторых, і секты), згодна з гэтай тэорыяй, зьяўляюцца рознымі, але раўназначнымі шляхамі да Бога. Даволі значная па колькасьці секта "Вера бахаі" нават зрабіла асновай свае дактрыны тэзіс пра роўнасьць рэлігіяў, дзякуючы чаму набыла вялікі аўтарытэт сярод рэлігійных лібералаў. І ўсё-ткі тэорыя пра адначасовую праўдзівасьць усіх рэлігіяў зьяўляецца аблудай. І ня толькі з пункту гледжаньня ўнікальнасьці хрысьціянства. Згодна з простай логікай, два ўзаемавыключныя суджэньні ня могуць адначасова быць праўдзівымі. Таму калі хрысьціянства кажа пра тое, што Бог – гэта Ай-



цец, Які нас любіць, і з Ім можна зносіцца як з асобаю, а індуізм завярае, што Бог – халодны безасабовы Абсалют, то справядлівы толькі адзін з гэтых пунктаў гледжаньня. Таксама калі хрысьціянская Царква вучыць, што Ісус Хрыстос – Адзінародны Сын Божы, а іслам сьцьвярджае, што Ён проста чалавек, то і тут праўда толькі адна. Правіла пра тое, што праўда ляжыць пасярэдзіне, тут не працуе.

Мы павінны зрабіць выбар і сумленна прыняць толькі адзін з бакоў. І ў гэтым пытаньні неабходна поўная яснасьць. Для нас несумненна, што толькі хрысьціянства валодае поўняй Праўды, што цалкам зразумела, бо Сам Сын Божы прыадчыніў перад чалавецтвам таямніцу быцьця Бога. Усё тое ў іншых рэлігіях, што супярэчыць навуцы Ісуса Хрыста, можна сьмела адкінуць, паколькі лагічна меркаваць, што Сам Бог ведае пра Сябе больш, чым хтосьці з людзей, няхай нават самых праведных і мудрых. Ніводная з рэлігій, і тым больш сект, ня можа параўнацца з хрысьціянствам па каштоўнасьці навукі. У нехрысьціянскіх рэлігіях ёсьць надта шмат чыста чалавечых прыдумак, у той час як хрысьціянская навука ад пачатку і да канца мае боскае паходжаньне. Менавіта гэта не дазваляе нам казаць пра раўнацэннасьць рэлігіяў.

## БОГ НА ШМАТ БОЛЬШЫ ЗА ЧАЛАВЕЧЫЯ ЎЯЎЛЕНЬНІ ПРА ЯГО

У той самы час, было б памылкай лічыць, што ўсе навукі нехрысьціянскіх рэлігіяў – суцэльная аблуда ці сьвядомы зман. Няпраўдзівае таксама і ўяўленьне пра тое, што ўсе пасьлядоўнікі гэтых рэлігіяў асуджаныя на вечную загібель. Гэты пункт гледжаньня – іншая крайнасьць, якая таксама сустракаецца сярод хрысьціянаў. На самой справе ў навуках іншых рэлігіяў, акрамя чалавечых фантазіяў, ёсьць нямала сапраўды праўдзівых і прыгожых элементаў. На аснове гэтых рэлігіяў былі створаныя вялікія культуры, і гэта таксама трэба ўлічваць.

Важна памятаць, што Бог нашмат пераўзыходзіць нашыя чалавечыя ўяўленьні пра Яго *(пар. Іс 55, 8-9)*. Часам Ягоная міласэрнасьць парадаксальная, і яна не пагаджаецца з нашымі ўласнымі паняцьцямі. Бог аб'яўляе Сябе розным народам у розных культурах, часам невытлумачальнымі для нас шляхамі. Менавіта гэтым можна растлумачыць практычна поўнае супадзеньне маральнага закону ва ўсіх найбуйнейшых рэлігіях. Прынцып "Не рабі іншаму таго, чаго не жадаеш сабе" ці "Паступай з іншымі так сама, як хочаш, каб паступалі з табой" прысутнічае і ў канфуцыянстве, і ў будызме, і ў ісламе. Маральны пачатак – гэта якраз тое, што аб'ядноўвае сусьветныя рэлігіі і адкрывае магчымасьці для супрацоўніцтва з вернікамі-нехрысьціянамі.

Пытаньне пра збаўленьне пасьлядоўнікаў нехрысьціянскіх рэлігіяў таксама вельмі няпростае. Раней уважалася (а дзе-колечы і да гэтага часу ўважаецца), што нехрысьціяне ўвогуле ня могуць збавіцца. Аднак сёньня ясна, што гэтае сьцьверджаньне празьмерна катэгарычнае. Наўрад ці хтосьці з хрысьціянаў усумніцца ў міласэрнасьці Бога. Менавіта таму цяжка дапусьціць думку пра тое, што Бог выракае на пакуты ў пекле сумленных і праведных людзей, якія з нейкіх прычынаў не змаглі даведацца пра хрысьціянства. Бог збаўляе чалавека праз любоў і не пакідае тых, хто шчыра жыве паводле сумленьня, нават калі гэтыя людзі не належаць да Царквы. Пры гэтым, аднак, важна мець на ўвазе, што толькі Царква зьяўляецца збаўчым Караблём, і збаўленьне нехрысьціянаў – гэта хутчэй выключэньне, чым правіла. Несумненна і тое, што само гэтае збаўленьне магчымае толькі дзякуючы ахвяры Хрыста, Які адкупіў грахі ўсіх людзей. Ён Сам адкрыў нам гэта, прамовіўшы: "Ніхто не прыходзіць да Айца, як толькі праз мяне" *(Ян 14, 6)*.

## РЭЛІГІІ НАТУРАЛЬНЫЯ І ЗВЫШНАТУРАЛЬНЫЯ

Паводле навукі хрысьціянскага рэлігіязнаўства, усе рэлігіі дзеляцца на натуральныя і звышнатуральныя. Да першых адносяцца рэлігіі, створаныя людзьмі ў іх імкненьні наблізіцца да боскага. Заснавальнікі і важнейшыя прадстаўнікі гэтых рэлігіяў, дзякуючы праведнасьці, мудрасьці і духовай глыбіні, часьцяком вельмі блізка падыходзілі да Праўды і, магчыма, у момант містычнага прасьвятленьня нават атрымоўвалі ад Бога часьціцы сьвятых ведаў. Таму ў такіх рэлігіях прысутнічаюць элементы Праўды, якія і мы, хрысьціяне, павінны прызнаць праўдзівымі. Так, навука будызму пра тое, што зямны сьвет недасканалы і аскеза ўзвышае чалавека над марнасьцю зямнога быцьця, уяўляецца зусім справядлівай. Таксама і навука ісламу пра тое, што існуе толькі адзін Бог, і што чалавек павінен быць верны і паслухмяны Яму, не выклікае ніякіх пярэчаньняў. Ёсьць і іншыя прыклады.

У той самы час далёка не з усім у навуцы гэтых рэлігіяў можна пагадзіцца. А ў некаторых з іх, напрыклад, у індуізме, прысутнічаюць і адкрыта цёмныя бакі (маецца на ўвазе культ багіні Калі і шэраг іншых). Акрамя натуральных рэлігіяў існуюць і рэлігіі звышнатуральныя, да якіх адносіцца юдаізм і хрысьціянства. У гэтых рэлігіях сувязь ідзе быццам бы з адваротнага боку, гэта значыць не чалавек сваімі высілкамі спрабуе наблізіцца да Бога, але Сам Бог з міласэрнасьці сыходзіць да чалавека. Спачатку Ён адкрывае Сваю волю праз прарокаў, а затым праз Адзінароднага Сына. У адпаведнасьці з гэтым хрысьціянства зьяўляецца вяршыняй Адкрыцьця, і яно, паводле словаў Хрыста, павінна распаўсюдзіцца па ўсёй зямлі *(пар. Мц 19, 28)*. Хрысьціянства сапраўды ўніверсальнае, яно прызначана для ўсіх людзей, незалежна ад нацыянальнасьці і культуры. Нават геаграфічна радзіма хрысьціянства знаходзіцца ў цэнтры экумены – на стыку Еўропы, Азіі і Афрыкі. Распаўсюджваючыся па сьвеце ў адпаведнасьці з запаветам Збаўцы, хрысьціянства непазьбежна павінна было сутыкнуцца з іншымі рэлігійнымі сістэмамі. А сёньня, у эпоху рэлігійнага плюралізму, мы сустракаемся з пасьлядоўнікамі нехрысьціянскіх рэлігіяў і ў самым сэрцы Заходняга сьвету. Як жа нам, хрысьціянам, ставіцца да іншых рэлігіяў і што казаць пра гэта людзям, якія навокал нас?



• Асізі (Італія). Малітва за мір прадстаўнікоў розных рэлігіяў.

## ДОСЬВЕД ЦАРКВЫ

Зьвернемся да дакументаў Царквы. Другі Ватыканскі Сабор дае цалкам ясны адказ на гэтае пытаньне. Каталіцкая навука па гэтай праблеме зьмяшчаецца ў Дэкларацыі пра адносіны Царквы да нехрысьціянскіх рэлігіяў. У ёй сказана: ***"Каталіцкая Царква не адкідвае нічога з таго, што праўдзіва і сьвята ў гэтых рэлігіях. Яна са шчырай павагай разглядае тыя прыклады чыну і жыцьця, тыя правілы і навукі, якія, хоць і адрозьніваюцца ў многім ад таго, чаго яна прытрымліваецца і чаму навучае, прыносяць усё ж нярэдка промень Праўды, які прасьвятляе людзей. Аднак, яна абвяшчае і забавязана абвяшчаць безупынна Хрыста, Які ёсьць "Шлях, Праўда і Жыцьцё"*** *(Ян 14, 6)*, ***у Якім людзі знаходзяць поўню рэлігійнага жыцьця і ў Якім Бог прымірыў з Сабой усё"*** *("II Ватыканскі Сабор: Канстытуцыі, Дэкрэты, Дэкларацыі", Брусэль, 1992, с.432)*.

Падводзячы вынікі, можна толькі паўтарыць даўно вядомую думку: усё праўдзівае і добрае паходзіць ад Бога. Таму ўсё добрае, што ёсьць у нехрысьціянскіх рэлігіях, таксама ад Бога, нягледзячы на тое, што самыя гэтыя рэлігіі зьяўляюцца плодам высілкаў недасканалага чалавечага розуму. Мы, хрысьціяне, як абраны народ Новага Запавету, павінны цаніць элементы Праўды, якія ёсьць у навуцы іншых рэлігіяў і паважаць перакананьні людзей, з якімі мы нязгодныя. Аднак пры гэтым мы ня можам прыхоўваць разважаньнямі пра боязь зьняважыць рэлігійныя пачуцьці нехрысьціянаў сваю ўласную пасіўнасьць ў абвяшчэньні Хрыстовага Евангельля. У сёньняшняй сітуацыі, калі вялікае мноства рэлігійных вучэньняў змагаюцца за чалавечыя душы побач з намі, хрысьціяне ніяк ня маюць права заставацца пасіўнымі. Сёньня як ніколі мы павінны памятаць словы Хрыста:

***"Вы – сьвятло сьвету"*** *(Мц 5, 14)*.

*(Пераклад з расейскае а. Яна М.)*

*Весьнік Грамады «Militia Dei», № 11, лістапад 1998 г.*

***Адна з важных падзеяў мінулага году ў хрысьціянскім жыцьці – VI Гнезьненскі Зьезд, які адбыўся 16-18 верасьня 2005 году ў Польшчы. Яго асаблівае значэньне яшчэ й у тым, што на гэты Форум хрысьціянскіх інтэлектуалаў Еўропы сабраліся ня толькі каталікі розных абрадаў, але і прадстаўнікі іншых вызнаньняў ды рэлігіяў. Сярод прадстаўнікоў Беларусі і БГКЦ на Зьезьдзе быў вядомы беларускі філёсаф і гісторык Анатоль Сідарэвіч з Менску. У мінулым нумары («Царква» №4 (47), 2005) мы пачалі друкаваць яго нататкі з VI Гнезьненскага Зьезду. Прапануем заканчэньне гэтага матэрыялу.***

ход і Захад. І ўсё ж Цэрквы павінны адчуваць адказнасьць за Еўропу, за мір у Еўропе, а Еўропа мусіць быць домам, адчыненым на сьвет.

Япіскап Гілярыён у сваім рэфераце нагадаў вядомае (і, дадам ад сябе, памылковае) выказваньне пра тое, што Еўропа мае два лёгкіх – праваслаўе і каталіцызм. І закончыў рэферат словамі: "Бяз двух лёгкіх Еўропа ня можа жыць". І зусім натуральна з гэтага выводзіцца тэзіс Уладыкі пра тое, што патрабуюцца дзясяткі, а можа, і сотні гадоў для яднаньня хрысьціянаў.

Усьведамляючы, што трэба заняцца праблемаю дэхрысьціянізацыі і бараніць хрысьціянскія традыцыі, япіскап Гілярыён адначасна зьвярнуў увагу, што ў некаторых пратэстанцкіх дэнамінацыях практыкуецца высьвячаньне жанчынаў і ўдзяляюцца аднаполыя шлюбы. Яны не выказваюцца і супроць эўтаназіі ды абортаў. Гэта перашкаджае дыялогу праваслаўя і пратэстантызму.

*[continued]* юдэйскія карані. Духоўнае і культурнае адзінства Еўропы не заканчваецца межамі Еўразьвязу, бо побач жывуць украінцы і беларусы. Цэрквы павінна яднаць супольная адказнасьць за ўсю Еўропу. Супольна яны павінны несьці Евангельле ўсёй Еўропе і адстойваць прынцыпы салідарнасьці, спагады, сацыяльнай справядлівасьці, каштоўнасьць сям'і і жыцьця. А дзеля гэтага прынцыпы міжцаркоўнай талерантнасьці і салідарнасьці павінны стаяць на першым месцы ў *Carta Ecumenica*.

Пасьля рэфератаў дастойнікі адказвалі над пытаньні. І першае пытаньне было: Цэрквы бліжэй да гармоніі ці да какафоніі? Япіскап Гілярыён сказаў, што адрозьненьні паміж цэрквамі маюць гістарычны характар, што паміж праваслаўем і каталіцызмам адрозьненьні толькі дагматычныя і што паміж праваслаўем і пратэстантызмам больш какафоніі, чым гармоніі. Біскуп Губэр заклікаў не супрацьпастаўляць Цэрквы і разумець, чым выкліканыя адрозьненьні ў іх падыходах да некаторых праблемаў. Кард. Каспэр паўтарыў думку пра разнароднасьць у еднасьці і еднасьць у разнароднасьці. Спадзяюся, мы іграем адну сімфонію,– дадаў біскуп Губэр,– нас адрозьнівае толькі інтэрпрэтацыя аднаго і таго ж музычнага твору. На гэта япіскап Гілярыён заўважыў: могуць быць і фальшывыя ноты; інтэрпрэтацыя не павінна даводзіць да таго, што музычны твор становіцца непазнавальны. Адстойваючы наяўнасьць і непазьбежнасьць плюралізму як зьявы міжцаркоўнай, біскуп Губэр адзначыў, што маецца ён таксама і ўнутры Цэркваў, у прыватнасьці ў праваслаўі. Сказаўшы гэта, біскуп даў

Анатоль СІДАРЭВІЧ

# Еўропа дыялогу

**Нататкі з VI Гнезьненскага Зьезду**

III

*ПРАБЛЕМЫ ЭКУМЕНІЗМУ*

Калі б хрысьціяне дасягнулі еднасьці ў поглядах на асноўныя каштоўнасьці, а перш-наперш былі ўзаемна цярпімыя, мусіць і дыялог хрысьціянаў і нехрысьціянаў быў бы больш пасьпяховы. Пра дасягненьне нейкага кананічнага адзінства хрысьціянскіх Цэркваў гаварыць не выпадае. І гэта паказалі экуменічныя дэбаты на Гнезьненскім зьезьдзе, у якіх удзельнічалі кардынал Вальтэр Каспэр, старшыня Папскай Рады ў справах Еднасьці хрысьціянаў, япіскап Гілярыён і старшыня Рады Евангелічнай Царквы Нямеччыны, біскуп Берліну, Брандэнбургу і Сілезскае Верхняе Лужыцы Вольфганг Губэр. Гэтыя дэбаты ўзначальваў архіяпіскап Уроцлаўскі і Шчэцінскі Ерамія (Анхімюк) з Польскай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы.

Кардынал Вальтэр Каспэр сказаў, што экуменічны рух можа адзначаць сваё 15-годдзе. Ён прайшоў шмат фазаў, але дзьве з іх галоўныя: пачатковы энтузіязм і пэўнае расчараваньне пазьней.

"Як павінен выглядаць экуменізм?"– папытаўся старшыня Папскае Рады. Ён павінен быць пастаянным дыялогам. На думку кардынала, у гэтым дыялогу Каталіцкая Царква пакуль апераджае іншыя супольнасьці.

У сваім рэфераце кард. Каспэр як найважнейшы кірунак вылучыў духоўны экуменізм, перш за ўсё малітву, каб усе былі адно. Таксама няма экуменізму і без навяртаньня, навяртаньня да Ісуса, калі мы адзіныя ў Ісусе. Навяртаньне немагчымае без евангелізацыі, а таксама бяз справаў міласэрнасьці, калі дапамогу і падтрымку атрымліваюць людзі не адно сваёй веры. Экуменізм, адзначыў далей кард. Каспэр, мае таксама палітычнае вымярэньне. Гэта праўда, што культурнае адзінства Еўропы кшталтавала хрысьціянства, але мы маем Ус...

Што да праваслаўна-каталіцкіх адносінаў, то япіскап Венскі і Аўстрыйскі выказаўся за каталіцка-праваслаўны альянс для адстойваньня хрысьціянскіх каштоўнасьцяў, для супольнага дыялогу з юдзямі (праваслаўныя і каталікі больш зацікаўленыя ў гэтым дыялогу, чым пратэстанты, адзначыў ён), за канферэнцыі праваслаўных і каталіцкіх біскупаў (у прыватнасьці дзеля таго, каб абмеркаваць і ўсталяваць прынцыпы паводзінаў каталікоў у праваслаўных краінах і наадварот). Але рана, падкрэсьліў Уладыка, гаварыць пра каталіцка-праваслаўную раду, пра эклезійнае адзінства. Асабліва ж ён падкрэсьліў, што за метад яднаньня ня можа быць прыняты ўніятызм. Адзначыўшы праявы ўніятызму ў розных краінах, ён адмыслова спыніўся на ўніятызме ва Украіне.



• *Дыялог хрысьціянскіх інтэлектуалаў: як важна чуць і правільна разумець адзін аднаго. (Гнезна, Польшча, 16-18.09.2005).*

Біскуп Вольфганг Губэр казаў пра тое, што адзінства хрысьціянаў не адмяняе разнароднасьці, і гэтая разнароднасьць, якая тлумачыцца рознымі ўмовамі бытаваньня Цэркваў, зьяўляецца самакаштоўнаю. Хрысьціянства нельга атаясамліваць з Еўропаю, працягваў лютэранскі біскуп, яно не павінна забываць пра свае

зразумець, што Расейская Праваслаўная Царква – гэта яшчэ ня ўсё праваслаўе.

Задавалі дастойнікам таксама і пытаньне аб прымаце папства, бо яно таксама лічыцца перашкодаю на шляху да еднасьці. Адзначыўшы, што гэтае пытаньне – найцяжэйшы пункт у каталіцка-праваслаўным дыялогу, кард. Каспэр сказаў: з праваслаўнымі багасловамі мы пагадзіліся, што прымат Папы Рымскага – ганаровы, а што гэта значыць – не ўдакладнілі. У дыялогу ж з пратэстантамі нас падзяляюць адрозьненьні ў інтэрпрэтацыі ўлады біскупа наагул.

У дастойнікаў спыталіся, якія надзеі і чаканьні яны зьвязваюць з новым Рымскім пантыфікам. Праваслаўны япіскап Гілярыён сказаў літаральна наступнае: "Спадзяюся, што Каталіцкая Царква не паддасца групам ціску і ня дойдзе да лібералізацыі маралі. Маю таксама надзею, што новага Папу чакае посьпех у дыялогу". Біскуп Губэр выказаў спадзяваньне на ажыўленьне пратэстанцка-каталіцкага дыялогу. Бенядыкт XVI, адзначыў ён, ведае пратэстанцтва, яго тэалогію і эклезіялогію. Голас пратэстантаў, падкрэсьліў біскуп, ня можа быць ігнараваны ў еўрапейскім дыялогу і ў дыялогу еўрапейска-амерыканскім.


• Сумесная малітва на пачатку VI Гнезьненскага Зьезду.

Было зададзена і пытаньне пра магчымасьць візіту Біскупа Рыму ў Расею. Кард. Каспэр адказаў, што такі візіт цяпер немагчымы. Але сустрэчу Бенядыкта XVI і Алексія II рыхтуем, дадаў ён, бо мажліва, што сустрэча адбудзецца не ў Маскве, а ў нейкім іншым месцы (гаворка тут ня ідзе пра сустрэчу публічную, мэдыяльную). "Я магу дадаць: Патрыярх ніколі не выключаў магчымасьці сустрэчы з Папам Рымскім",– сказаў япіскап Гілярыён. Рыхтавалася сустрэча ў Вене, паведаміў ён, але... Віну за зрыў гэтае сустрэчы праваслаўны япіскап усклаў цалкам на Ватыкан. На яго думку, сустрэчы перашкаджаюць дзьве праблемы: уніятызм і празелітызм. Адказ кард. Каспэра быў такі: Уніяцкая Царква мае права на існаваньне, але ўніятызм ня ёсьць шляхам да еднасьці.

Тут трэба зрабіць адступленьне. Даўней РПЦ выстаўляла да Каталіцкае Царквы прэтэнзіі дагматычна-кананічныя: маўляў, еднасьці замінаюць дагмат аб паходжаньні Сьвятога Духа і ад Сына, догмат аб беззаганным зачацьці Дзевы Марыі, догмат аб непамыльнасьці Папы, прычашчэньне прэсным хлебам без віна і г. д. Цяпер гэтыя прэтэнзіі адышлі на задні план. Пасьля падзеньня жалезнае заслоны і камунізму РПЦ атрымала новыя аргументы супраць еднасьці, супраць дыялогу з Каталіцкай Царквою на найвышэйшым узроўні. Апрача стварэньня рыма-каталіцкіх дыяцэзіяў на тэрыторыі Расеі, гэта аднаўленьне Ўніяцкае Царквы, асабліва ва Ўкраіне, дзе, апрача таго, адбылося і вяртаньне царкоўнае маёмасьці яе першапачатковаму ўладальніку.

Дзіўнае абгрунтаваньне гэтых прэтэнзіяў. Гаворачы пра Расею як пра кананічна праваслаўную тэрыторыю, РПЦ мусіла б ліквідаваць сваю япархію ў такой каталіцкай краіне як Аўстрыя, дзе служыць япіскап Гілярыён, аднак ні Каталіцкая Царква Аўстрыі, ні Сьвяты Пасад ніколі такога пытаньня ня ставілі.

Прызнаючы, што ў 1946 годзе Сталін, абвясьціўшы Ўніяцкую Царкву ва Ўкраіне па-за законам, учыніў несправядлівасьць, праваслаўны ўладыка заявіў: нельга адну несправядлівасьць выпраўляць другою несправядлівасьцю. Але пры гэтым ён быццам забывае, што яшчэ жывыя дзясяткі тысячаў вернікаў, якія хадзілі ў тыя цэрквы, калі яны былі грэка-каталіцкія, што не перарвалася жывая сувязь змушаных да праваслаўя грэка-каталікоў і іх нашчадкаў, што УГКЦ мела ў падпольлі і за мяжою цалкам кананічнае духавенства і зьверхніка Царквы. У новых умовах цэлыя парафіі або большыя часткі іх, у першую чаргу тыя дзясяткі тысячаў змушаных да праваслаўя старых разам з сваімі дзецьмі, унукамі і праўнукамі вярнуліся ў ранейшы стан і вярнулі тое, што належала ім па закону да 1946 году. Ніводнага біскупа і бацюшку, які супраціўляўся гэтаму працэсу не закатавалі, не адправілі ў турму, манастыр або ссылку, як гэта рабіў бальшавіцкі рэжым пры маўклівай згодзе Маскоўскага Патрыярхату.

Літаральна перад Гнезьненскім зьездам РПЦ атрымала магчымасьць выставіць яшчэ адну прэтэнзію Каталіцкай Царкве: перанос рэзідэнцыі Вярхоўнага Архібіскупа УКГЦ з Львова ў Кіеў. Абгрунтаваньне гэтае прэтэнзіі праваслаўнымі зьдзівіла ўсіх удзельнікаў зьезду. Першы аргумент супраць пераносу рэзідэнцыі: у Кіеве толькі 8 грэка-каталіцкіх парафіяў. Другі: перанос сядзібы кардынала Любаміра Гузара з Львова ў Кіеў – гэта ўсё роўна што перанос рэзідэнцыі Патрыярха Маскоўскага ў Рым. Кардынал Каспэр адрэагаваў бліскуча: калі ласка, няхай Патрыярх Алексій пераяжджае ў Рым! Але кардынал выказаў неўразуменьне, чаму хтосьці павінен умешвацца ў нацыянальныя справы і вырашаць, дзе павінна быць рэзідэнцыя зьверхніка нацыянальнае Царквы.

Пры такім падыходзе мне падаецца, што плённы дыялёг паміж РПЦ і Каталіцкаю Царквою, на жаль, немагчымы. Дыялог жа з іншымі праваслаўнымі Цэрквамі і, найперш, з Канстанцінопальскім Патрыярхам Барталамеем I, выглядае больш шчырым і перспектыўным.

## IV
## *ПРА БУДУЧЫНЮ ЕЎРОПЫ*

Шосты Гнезьненскі зьезд супаў з 40-годдзем нямецка-польскага дыялогу, запачаткаванага "ўсходнім мемарандумам" Евангелічна-Лютэранскае Царквы Нямеччыны, а таксама лістом польскіх каталіцкіх біскупаў да нямецкіх біскупаў. Гэтай даце была прысьвечана сустрэча, у якой бралі ўдзел вядомы каталіцкі дзеяч, былы міністар замежных спраў Польшчы Ўладзіслаў Барташэўскі, евангелічны біскуп Ёзаф Гомаер, старшыня камісіі біскупаў Еўрапейскай Супольнасьці, біскуп Вольфганг Губэр, былы фэдэральны канцлер Нямеччыны Гельмут Коль, старшыня Цэнтральнага камітэту нямецкіх каталікоў Ганс Ёахім Маер, былы прэм'ер-міністар Польшчы Тадэвуш Мазавецкі, старшыня Канферэнцыі Япіскапату Польшчы, мітрапаліт Перамышльскі Юзаф Міхалік, а таксама мітрапаліт Генрык Мушынскі. Гэта была гутарка, у ходзе якой гісторык з вуснаў непасрэдных удзельнікаў працэсу прымірэньня мог даведацца аб раней невядомых фактах. А на другі дзень У.Барташэўскі, Т.Мазавецкі, Г.Коль, а таксама Міраслаў Марыновіч з Украіны, былы прэм'ер Славакіі Ян Чарнагурскі гутарылі ў вялікай зале пра будучыню Еўропы.

Еўропе трэба цяпер, пасьля няўдачы з рэферэндумам наконт Еўраканстытуцыі, вярнуцца да вялікіх дэбатаў, але гэта мусяць быць дэбаты публічныя. Ёсьць праблемы, якія краіны могуць вырашыць паасобна, але маюцца і такія, якія трэба вырашаць супольна. Да такіх супольных праблемаў адносяцца стасункі паміж Еўразьвязам і ЗША, паміж Еўразьвязам і Ўсходам Еўропы, у прыватнасьці паміж Еўразьвязам і Расеяй. Такой праблемаю зьяўляецца і пытаньне энэргетычнай бясьпекі Еўропы.

Стаіць пытаньне: ці можа быць сябрам Еўразьвязу Турцыя? Канцлер Гельмут Коль адназначна сказаў: "Не". Ён жа выказаўся і супраць таго, каб сябрам Еўразьвязу была Расея. Прэм'ер Т.Мазавецкі адзначыў, што Еўразьвяз яшчэ ня вызначыўся з Балканамі, у прыватнасьці з Босьніяй, і Украінаю. Дзеля гэтага таксама патрабуецца публічная дыскусія. Найбольш красамоўны ўдзельнік дыскусіі прафесар У.Барташэўскі, выказваючыся супроць прыняцьця ў Еўразьвяз Турцыі, нагадаў, што яе суседзямі зьяўляюцца старажытныя хрысьціянскія краіны Арменія і Грузія. Ён жа нагадаў, што старажытнаю хрысьціянскаю краінаю зьяўляецца і Ўкраіна, якая несла цывілізацыю цяперашняй Расеі. І нарэшце адмыслова ён заастрыў увагу на праблеме "Еўразьвяз – Беларусь". Можна сказаць, што беларускаю тэмаю публічныя дэбаты на VI Гнезьненскім зьездзе і завяршыліся.

Зьезд закончыўся прыняцьцем заключнага дакументу "Адкрыймася для дыялогу", а таксама ліста яго ўдзельнікаў да Папы Бенядыкта XVI.

# Апостальскі Нунцый сярод беларускіх грэка-каталікаў

⇨ Заканчэньне са с.6

Чарговай нагодай для сустрэчы з Апостальскім Нунцыем было сьвята Сустрэчы Гасподняй — 2 лютага 2006 году, у рамках якога адзначаўся "Дзень жыцьця, прысьвячанага Богу" (г. зн. Дзень манаскіх ордэнаў і супольнасьцяў). У сьв. Імшы, якую ўзначаліў Архібіскуп Марцін Відавіч, удзельнічаў Архімандрыт Сяргей і супрацоўнікі менскага Сакратарыяту Апостальскага Візітатара для грэка-католікаў Беларусі.

Асаблівае значэньне мела сустрэча з Апостальскім Нунцыем у рамках душпастырскай Сынаксы (сходу) духавенства БГКЦ, якая адбылася ў Менску ў Чырвоным касьцёле 3 лютага 2006 году. Узначалілі яе Яго Эксцэленцыя Архібіскуп Марцін Відавіч і Апостальскі Візітатар Архімандрыт Сяргей. У літургічнай частцы Сынаксы ўдзельнічалі таксама вернікі менскай парафіі Маці Божай Нястомнай Дапамогі разам са сваім парахам а. Казімірам Ляховічам. Да іх і да прысутных сьвятароў візантыйскага абраду Апостальскі Нунцый у канцы Боскай Літургіі накіраваў пастырскае слова заахвочваньня.

У душпастырскай частцы Сынаксы ўдзельнічалі ўсе сьвятары БГКЦ. Каб даць лепшы адказ на новыя душпастырскія патрэбы, што стаяць перад каталіцкімі парафіямі і супольнасьцямі візантыйскага абраду ў Беларусі, Апостальскі Візітатар прыняў рашэньне разьдзяліць датыхчасовы адзіны Дэканат (які ў Кодэксе Канонаў Усходніх Цэркваў называецца протапразьбітаратам) на два дэканаты: Усходні і Цэнтральна-Заходні.

Да Ўсходняга Дэканату імя Сьвятога сьвятамучаніка Язафата былі прыпісаныя каталіцкія парафіі і супольнасьці візантыйскага абраду, што знаходзяцца на тэрыторыі вобласьцяў: Віцебскай, Магілёўскай і Гомельскай. Протапразьбітарам-Дэканам Усходняга Дэканату прызначаны ераманах Лявонці (Тумоўскі) з парафіі ў Полацку. Парафіі і супольнасьці, што знаходзяцца на тэрыторыі Гродзенскай, Берасьцейскай, Менскай вобласьцяў і ў горадзе Менску, прыпісаныя да Цэнтральна-Заходняга Протапразьбітарату імя Блаславёнага сьвятамучаніка Мікалая (Чарнецкага). Кіраваньне гэтым Протапразьбітаратам (Дэканатам) было даручана а. Андрэю Абламейку, параху парафіі Праведнага Язэпа ў Менску.

На заканчэньне Сынаксы Апостальскі Нунцый зьвярнуў увагу духавенства БГКЦ на шматлікія новыя душпастырскія выклікі, якія стаяць перад супольнасьцямі католікаў візантыйскага абраду ў Беларусі, і на неабходнасьць міжпарафіяльнага супрацоўніцтва дзеля ўмацаваньня духовай апекі над вернікамі.






*• Менск, 03.02.2006. Апостальскі Нунцый Уладыка Марцін Відавіч на Сынаксе духавенства БГКЦ.*

*Фота Вячаслава Гарчакова.*







Царква
*грэка-каталіцкая газета*
*№ 1 (48), 2006*
17 сакавіка

Адрас рэдакцыі:
вул.Дворнікава, 63
224014 г.Берасьце (Брэст)
Беларусь
Тэл./факс: (0162) 24-74-82
e-mail: bgkc_carkva@tut.by

**Выдавец:** Грэка-каталіцкая парафія сьвятых братоў-апосталаў Пятра і Андрэя ў г.Берасьці
**Пасьведчаньне аб рэгістрацыі:** № 1055 ад 27.11.1997 г.
**Галоўны рэдактар:** а. Ігар КАНДРАЦЬЕЎ,
**Царкоўны асістэнт:** а. Андрэй СІДАРОВІЧ (MIC)
**Адказны рэдактар:** а. Андрэй КРОТ, STM
**Выпускны рэдактар:** Ігар БАРАНОЎСКІ
**Падпісана ў друк:** 17 сакавіка 2006 году, а 23-30
**Паліграфічныя работы:** ПП В.Ю.А. (пасьв. № 02330/0131540 ад 30.04.04), вул.Мініна, 23-106, 220014 г.Менск. **Замова № 64**
**Аб'ём** – 2,5 ул.-выд.аркушы. **Наклад** 1900 асобнікаў.

*НАШ РАХУНАК:*
*№ 3015200210017*
*у філіяле № 2/01 г.Берасьця*
*ЗАТ "Абсалютбанк",*
*МФО 150501242,*
*УНП 200558013*

*Кошт свабодны. Газета выдаецца і распаўсюджваецца за ахвяраваньні. Шчыра дзякуем усім ахвярадаўцам.*